# ПЕРШЫ МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС ДАСЛЕДЧЫКАЎ БЕЛАРУСІ

## ПРАЦОЎНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ

Том 1, 2012



# THE FIRST INTERNARIONAL CONGRESS OF BELARUSIAN STUDIES

## WORKING PAPERS

Volume 1, 2012

ISBN 978-9955-12-804-5 (ONLINE)
ISBN 978-9955-12-803-8

Vytautas Magnus University

# Першы Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі

Працоўныя матэрыялы

Том 1 (2012)

# The First International Congress of Belarusian Studies

Working Papers

Volume 1 (2012)

Vytautas Magnus University Press
Kaunas, Lithuania, 2011

UDK 323.2(476)(063)
Fi319

# Першы Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі
Працоўныя матэрыялы
Том 1 (2012)

*Першы Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі адбыўся 23-25 верасня 2011 года ў Коўна (Літва)*



**Стыль-рэдуктура і карэктура**
Вольга Гапеева (беларуская і англійская мова)
Стэфанія Каліноўская (руская мова)
Максім Александровіч (англійская мова)
Томаш Блашчак (польская мова)

**Вёрстка і макет вокладкі**
Дзмітры Ісаеў

**Заснавальнікі і партнёры**
Інстытут палітычных даследаванняў "Палітычная сфера" (Беларусь)
Універсітэт Вітаўта Вялікага (Літва)
Інстытут Вялікага Княства Літоўскага (Літва)

Міжнародны Кансорцыум "ЕўраБеларусь" (Беларусь)
Беларускі інстытут стратэгічных даследаванняў (Беларусь)
Інтэрнэт-часопіс "Новая Эўропа" (Беларусь)
Сайт экспертнай супольнасці "Наше мнение" (Беларусь)
Часопіс "Arche" (Беларусь)
Еўрапейскі Цэнтр па пытаннях меншасцяў (Германія)
Інтэрнэт-выданне "BelarusDigest" (Вялікабрытанія)
Праграма "Лятучы ўніверсітэт" (Беларусь)
Фонд імя Конрада Адэнаўэра (Германія)
Агенцыя гуманітарных тэхналогій/Цэнтр сацыяльных інавацый (Беларусь)
Цэнтр усходняй палітыкі (Літва)

Выданне падрыхтаванае дзякуючы падтрымцы *Фонду ім. Конрада Адэнаўэра*



ISBN 978-9955-12-804-5 (online)
ISBN 978-9955-12-803-8

UDK 323.2(476)(063)
Fi319

# The First International Congress of Belarusian Studies
Working Papers
Volume 1 (2012)

*The First International Congress of Belarusian Studies was held on September 23-25, 2011 in Kaunas (Lithuania).*



**Proof-reading**
Volha Hapiejeva (Belarusian and English)
Stefanija Kalinoŭskaja (Russian)
Maksim Alieksandrovič (English)
Tomasz Błaszczyk (Polish)

**Design and Layout**
Dzmitry Isajeŭ

**Founders and Organizers**
*Political Sphere* Institute of Political Studies (Palityčnaja Sfiera) (Belarus)
Vytautas Magnus University (Lithuania)
Institute of the Grand Duchy of Lithuania (Lithuania)

*EuroBelarus* International Consortium (Belarus)
Belarusian Institute for Strategic Studies (Belarus)
*Novaja Eŭropa / New Europe* online magazine (Belarus)
*Našie Mnienije / Our Opinion* Expert Community web-site (Belarus)
*Arche* Journal (Belarus)
The European Centre for Minority Issues (Germany)
*BelarusDigest* online magazine (United Kingdom)
*Flying University* program (Belarus);
Agency of Humanitarian Technologies/ Centre for Social Innovations (Belarus);
*East Politics Centre* public institution (Lithuania)

The volume is published with support of *Konrad Adenauer Stiftung*



ISBN 978-9955-12-804-5 (online)
ISBN 978-9955-12-803-8

Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі
International Congress of Belarusian Studies
Tarptautinis Baltarusijos tyrimų kongresas

Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі быў заснаваны 6 кастрычніка 2010 года ў г. Коўна (Літва) на сустрэчы прадстаўнікоў беларускай і літоўскай акадэмічнай і экспертнай супольнасці.

Кангрэс ініцыяваны як штогадовая сустрэча беларускіх і замежных навукоўцаў, экспертаў, аналітыкаў, прадстаўнікоў грамадскіх і дзяржаўных інстытуцый, якія займаюцца даследаваннем Беларусі.

**Місія Кангрэса** – развіццё супольнасці навукоўцаў, аналітыкаў і экспертаў, а таксама спрыянне больш глыбокаму разуменню Беларусі ў акадэмічным і грамадскім асяродку краіны, рэгіёну і свету.

Кангрэс бачыцца месцам прэзентацыі вынікаў працы навукоўцаў і экспертаў на працягу года. Акрамя гэтага, правядзенне Кангрэса з'яўляецца выдатнай магчымасцю для распрацоўкі новых жыццяздольных даследчых і грамадскіх праектаў, абмену меркаваннямі і ідэямі, усталявання нефармальных кантактаў. Кангрэс дазволіць сістэматызаваць веды пра Беларусь, а таксама заахвоціць практыку ўзаемнага супрацоўніцтва і камунікацыі.

Кангрэс разлічаны на ўдзел шырокага кола спецыялістаў з Беларусі, Еўрапейскага Саюза, Расіі, ЗША, Украіны і іншых краінаў свету.

Праца Кангрэса спалучае традыцыйныя пасяджэнні з арганізацыяй экспертных панэляў і грамадскіх дыскусій па актуальным тэмам беларускай палітыкі, культуры, грамадства, рэгіянальнага і міжнароднага супрацоўніцтва.

The International Congress of Belarusian Studies was founded at the meeting of Belarusian and Lithuanian scholars and experts in October 6, 2010 in Kaunas, Lithuania.

The Congress was initiated as an annual meeting of Belarusian and foreign scholars, experts, analysts and representatives of civil society and government institutions, which are involved in studying Belarus.

**The Congress' mission** is to promote a deeper understanding of Belarus in academic and civil communities of the country, region and world.

The Congress aims to become a place for presentation of outcomes of scholarly and expert activities, produced throughout the year. In addition, the Congress is an excellent opportunity to develop new research and community projects, to exchange views and ideas and to establish informal contacts.

The Congress combines traditional academic activities with expert panels and public discussions on topical issues of Belarusian politics, culture, society, regional and international cooperation.

2010 m. spalio 6 d. Kaune (Lietuva) susirinkę baltarusių ir lietuvių mokslininkai ir ekspertai nutarė surengti tarptautinį Baltarusijos tyrimų kongresą.

Tokie kongresai turėjo tapti kasmetiniais baltarusių ir kitų šalių mokslininkų, ekspertų, analitikų, visuomeninių organizacijų ir valstybinių institucijų atstovų, besidominčių Baltarusija bei atliekančių jos tyrimus, suvažiavimais.

**Kongreso misija** – išvystyti mokslininkų, analitikų ir ekspertų visuomenę, siekti geresnio Baltarusijos supratimo tarp akademinių ir visuomeninių centrų šalyje, regione ir pasaulyje.

Kongresas turėtų tapti mokslininkų ir ekspertų per metus atliktų darbų rezultatų pristatymo vieta. Taipogi kongresas gali būti puikia vieta, kur gimtų nauji tyrimų ar visuomeniniai projektai, būtų keičiamasi idėjomis ar užmezgami nauji neformalūs kontaktai.

Kongreso darbą nutarta organizuoti sukuriant įvairias ekspertų ir diskusijų darbo grupes, kuriose būtų gvildenamos aktualios baltarusiškos politikos, kultūros, visuomenės tyrimų, regioninio ir tarptautinio bendradarbiavimo temos.

Web: http://icbs.lt, http://icbs.palityka.org/
e-mail: icbs@palityka.org
Tel. (BY) + 375 29 673 32 96
Tel. (LT) + 370 68 63 11 46
Fax. + 370 37 20 38 58

# ІДЭЯ АДРАДЖЭННЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА Ў ТВОРЧАСЦІ АДАМА МІЦКЕВІЧА

**АНАТОЛЬ БРУСЕВІЧ**

***Анатацыя:*** Ідэя адраджэння Вялікага Княства Літоўскага з'яўляецца адной з ключавых у творчасці Адама Міцкевіча. На ёй грунтуецца рамантычны светапогляд паэта. Доказам служаць самі творы рамантыка, у якіх Міцкевіч, звяртаючыся да гісторыі бацькаўшчыны, зазвычай выбірае той адрэзак часу, калі ВКЛ яшчэ не знаходзілася ў саюзе з Польшчай. Гэта значыць, што Рэч Паспалітую, а тым больш Карону, паэт ўспрымаў альбо вельмі абстрактна, альбо свядома ствараў дыстанцыю паміж сабой і "польскасцю".

***Ключавыя словы:*** рамантызм, патрыятызм, Вялікае Княства Літоўскае, гістарызм.

## THE IDEA OF REVIVAL OF THE GRAND DUCHY OF LITHUANIA IN THE WORKS OF ADAM MICKIEWICZ

***Abstract:*** The idea of revival of the Grand Duchy of Lithuania is the essential one in Adam Mickiewicz's oeuvre. The poet's romantic world view is based on it. This is proved by the works themselves, in which – addressing to the history of the fatherland – Adam Mickiewicz usually chose those days when the Grand Duchy of Lithuania was not in alliance with Poland. This means that either the poet perceived the Polish-Lithuanian Commonwealth in a very abstract way, or consciously created a distance between himself and the "Polishness".

***Keywords:*** Romanticism, Patriotism, Grand Duchy of Lithuania, Historism.

Гісторыя літаратуры, як любая іншая навука, мае шэраг нявырашаных праблем і спрэчных пытанняў. Да найбольш “праблемных” літаратурных феноменаў належыць постаць Адама Міцкевіча, які нарадзіўся на памежжы адразу некалькіх культурных традыцый, і чыя творчая свядомасць сфармавалася пад уплывам самых розных, часам нават супярэчлівых, ідэй. Аднак сучасных даследчыкаў цікавіць пытанне не чый Міцкевіч, а ў якой ступені яго творчасць і ён сам суадносяцца з тым ці іншым нацыянальным літаратурным кантэкстам. Каб вызначыць гэтыя суадносіны, трэба разабрацца перш за ўсё з пытаннем генезісу міцкевічаўскага рамантызму. Для гэтага мы мусім паглядзець на рамантызм не толькі як на літаратурны кірунак, але і як на агульнакультурную плынь, што мае ўласную філасофію і пэўную сістэму каштоўнасцей. Калі казаць пра гэтую сістэму, то яна грунтавалася перадусім на свабодалюбстве і патрыятызме. І вось тут узнікаюць зноў пытанні: патрыётам якой дзяржавы, краю, зямлі лічыў сябе паэт; што лічыць айчынай Міцкевіча? Вядома, радзіма – гэта зямля, дзе ты нарадзіўся і дзе пахаваны твае продкі. Міцкевіч нарадзіўся ў 1798 годзе на Наваградчыне – этнічных беларускіх землях, якія складалі ядро Вялікага Княства Літоўскага, разам з княствам уваходзілі ў федэрацыю Рэч Паспалітая, але пасля апошняга яе падзелу тры гады як належалі Расійскай імперыі. Безумоўна, дзяржава-захопніца не магла лічыцца радзімай. Не магла лічыцца радзімай у поўным сэнсе гэтага слова і Рэч Паспалітая, бо і ў часы свайго фармальнага існавання гэтае палітычнае ўтварэнне не было нечым цэласным і даволі абстрактна ўспрымалася жыхарамі Літвы.

Пасля ліквідацыі Рэчы Паспалітай ліцвіны не пераставалі верыць у адраджэнне ВКЛ, што не з’яўлялася такім ужо і ілюзорным. Гэтая ідэя, ідэя адраджэння Літвы, легла ў аснову міцкевічаўскага рамантызму. Цікава тое, што калі Міцкевіч у сваіх творах звяртаецца да гістарычнага мінулага радзімы, то часцей ўзнаўляе Літву яшчэ да часоў уніі з Польшчай. Гэта пацвярджае вышэй згаданую думку пра абстрактнасць успрымання ліцвінамі Рэчы Паспалітай. Першым творам Міцкевіча, у якім ён выкарыстоўвае “велікакняскую” тэматыку, стала паэма “Мешка, князь Навагрудка”. Некаторыя даследчыкі звяртаюць увагу на шэраг гістарычных недакладнасцей, якімі насычана паэма. Але ж мэтай для паэта было абуджэнне патрыятызму, а не стварэнне дакладнай гістарычнай карціны. Наадварот, паэт свядома ўводзіць у большасць сваіх быццам бы “гістарычных” твораў недакладнасці, каб падкрэсліць, што галоўная роля адводзіцца не гісторыі, а толькі духу далёкай мінуўшчыны. Так, напрыклад, прадстаўляючы ў паэме вобраз Парая, адважнага ваяра і патрыёта сваёй бацькаўшчыны, Міцкевіч як бы незнарок згадвае рэальную гістарычную асобу – вялікага князя

літоўскага Альгерда, які праславіўся тым, што больш за іншых ваяваў з Масковіяй. Перад дасведчаным чытачом, такім чынам, паўставала не рэтраспекцыя (рэтраспекцыя бачылася чытачу недасведчанаму, чытачу "неліцвіну"), а рэальная перспектыва аднаўлення страчанай дзяржаўнасці – трэба было толькі аб'яднаць сілы ў змаганні супраць царызму.

Адзін з найбольш цікавых твораў Міцкевіча, у якім узнікае вобраз ВКЛ, гэта балада "Свіцязь". Як і ў папярэднім выпадку, паэта не цікавіць гісторыя – ён думае пра заўтрашні дзень сваёй радзімы, але ідэю адраджэння Літвы хавае ў карунку казкі, што, зрэшты, якраз у традыцыі рамантызму. У баладзе нібыта ўзнаўляюцца часы Міндоўга. Але калі зірнуць, паглядзець за рамкі прыгожай легенды, перад чытачом паўстае суворая проза жыцця ВКЛ мяжы XVIII – XIX стагоддзяў, дзе Міндоўг становіцца сімвалам сучаснай Літвы, якую насамрэч узяў у аблогу рускі цар (car z rusi). І калі ў баладзе выдуманы князь Туган ідзе на дапамогу Міндоўгу, ахвяруючы самым дарагім – жыццём родных і блізкіх людзей, гэта трэба прачытваць як рамантычны заклік паэта самаахвярна змагацца з царызмам. Тое, што Міцкевіч і яго суайчыннікі верылі ў адраджэнне ВКЛ, бачым у фінале балады "Свіцязь". Нягледзячы на тое, што цар і "руская зграя" (ruska zgraja) захапілі горад князя Тугана, яны не перамаглі жыхароў Свіцязі. Частка гараджан абрала смерць замест ганьбы паразы, а астатніх Бог ператварае ў кветкі, якія забіваюць захопнікаў, калі тыя спрабуюць да іх дакрануцца.

Калі ў паэме "Мешка, князь Навагрудка" і ў баладзе "Свіцязь" паэт не клапоціцца пра дакладнае ўзнаўленне гістарычных рэаліяў, а гістарычныя асобы ператварае ў сімвалы сучасных калізій, то ў паэме "Гражына" вобраз ВКЛ паўстае сапраўды ў гістарычным ракурсе. Міцкевіч вельмі дакладна перадае цэлы перыяд гісторыі сярэднявечнай Літвы – канец XIV – першую палову XV стст. – час міжусобных войнаў. Дарэчы, паводле першапачатковай задумы, паэма павінна была выглядаць як сапраўды гістарычная аповесць: перад яе напісаннем паэт сур'ёзна папрацаваў у фондах бібліятэкі графаў Храптовічаў у Шчорсах. Героем аповесці мелася быць рэальная гістарычная постаць – Ноўгарада-Северскі князь Карыбут з дынастыі Гедзімінавічаў, які ў 1390 годзе за дапамогу Ягайлу пры аблозе Гродна атрымаў ад апошняга ў дзяржанне Ліду, але за тое, што адмовіўся прысягаць на вернасць Вітаўту як вялікаму князю ВКЛ, у 1392 годзе разбіты яго войскамі і ўзяты ў палон. Сам жа твор павінен быў называцца "Карыбут, князь Ноўгарадскі, паэма з літоўскай гісторыі". Аднак у працэсе працы над паэмай змянілася і яе задума: Міцкевіч вырашыў рухацца ў ранейшым кірунку – ставіць гісторыю на службу сучасным, надзён-

ным задачам. А галоўнай задачай паэта-рамантыка па-ранейшаму заставалася барацьба за вяртанне страчанай радзімы, за адраджэнне ВКЛ. У выніку, з усіх рэальных гістарычных асоб паэт пакідае толькі адну – вялікага князя Вітаўта, месца дзеяння пераносіць з Ноўгарада-Северскага ў Навагрудак, а паэму называе “Гражынай”, надаючы ёй падтытул “Літоўская аповесць”.

Акрамя знаёмых вобразаў і краявідаў, якімі Міцкевіч шчодра аздобіў “Гражыну”, твор адлюстроўвае і да болю знаёмую сучаснікам паэта палітычную сітуацыю: нягледзячы на тое, што падзеі паэмы адбываюцца ў сярэднявечнай Літве, чытач павінны быў бачыць намёк на падзел Рэчы Паспалітай паміж трыма дзяржавамі – Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй (паслоў, што прыходзілі да адступніка, князя Літавора, таксама было трое). У паэме тры асноўных героя – князь Літавор, яго жонка Гражына і рыцар Рымвід. Носьбітамі патрыятычнай ідэі выступаюць Гражына і Рымвід, супрацьпастаўленыя аўтарам эгаістычнаму Літавору. Зрэшты, князя нельга назваць цалкам адмоўным героем, Міцкевіч яўна сімпатызуе яму, надзяліўшы яго шэрагам станоўчых рыс: Літавор добры муж, адважны ваяр, нарэшце, ён здольны прызнаць уласныя памылкі. Напрыклад, Параю з “Жывілі” аўтар такога шансу не дае – за здраду радзіме герой апавядання гіне ад рукі каханай. На прыкладзе Літавора Міцкевіч сцвярджае думку, што ніколі не позна адваяваць страчаныя каштоўнасці – і этычна-маральныя, і духоўныя, і матэрыяльныя. Канешне, паэт мае на ўвазе і адваёўванне найвялікшай каштоўнасці – айчыны.

Ідэя адраджэння ВКЛ, на якой грунтавалася творчая свядомасць Міцкевіча, асабліва на раннім этапе творчасці паэта, з часам, канешне, пачынала відазмяняцца, паколькі сталеў сам пісьменнік, а вакол яго мянялася і грамадска-палітычная сітуацыя. З 1825 года, з прыходам на трон расійскай імперыі Мікалая І, многія ліцвінскія патрыёты зразумелі, што вяртанне незалежнасці ВКЛ становіцца яшчэ менш дасягальным. Так адбываецца зрух міцкевічаўскага рамантызму ў бок “рэчапаспалітасці”, што пазней дасць падставу польскаму літаратуразнаўству аб’явіць паэта сваім нацыянальным вешчуном. Асабліва заўважаны гэты “пералом” у творах Міцкевіча, напісаных у эміграцыі.

Па меры аддалення ад “цэнтра”, ад айчыны-Літвы, адбываецца трансфармацыя разумення і адчування рамантыкам сутнасці патрыятызму: з патрыёта ВКЛ ён паступова становіцца патрыётам усёй Рэчы Паспалітай. Паэт выдатна разумее: цяпер адраджэнне Літвы наўрад ці магчымае без адраджэння ўсёй Рэчы Паспалітай, бо адных намаганняў і жаданняў ліцвінаў ужо недастаткова. Першым “пераломным” творам

можна лічыць верш “Тры Будрысы”, які з’явіўся ў 1827 годзе і быў пазначаны як ліцвінская балада. У баладзе расказваецца пра сыноў старога ліцвіна Будрыса, што ідуць слядамі свайго бацькі – прывозяць, як некалі і ён, з ваеннага паходу жонак-полек. Гэтак Міцкевіч прадставіў і гісторыю свайго краю (унію Літвы і Польшчы), і сучасную сітуацыю, калі прыйшоў ізноў час аб’яднацца жыхарам колішняй Рэчы Паспалітай, каб вярнуць агульную радзіму.

Такім чынам, падагульняючы вышэй сказанае, можна сцвярджаць, што рамантызм Міцкевіча мае ўсё ж такі ліцвінскія карані, паколькі галоўнай ідэяй, якая была пакладзена ў аснову творчасці рамантыка, была ідэя вяртання радзімы – Вялікага Княства Літоўскага.

# УСПРЫНЯЦЦЕ МІНУЛАГА Ў XVI СТАГОДДЗІ: ГІСТОРЫЯ ВКЛ ЯК ГІСТОРЫЯ РОДУ

**ЯЎГЕН ГЛІНСКІ**

***Анатацыя:*** У артыкуле на падставе адаптаваных да гістарычнай праблематыкі метадаў нараталогіі аналізуецца, як у інтэлектуальнай традыцыі Вялікага Княства Літоўскага XVI ст. асэнсоўвалася з родавай перспектывы ўласнае мінулае. Выяўляецца, як "родавы" пункт погляду на мінулае ўплываў на стаўленне да розных падзей гісторыі, іх інтэрпрэтацыю і ацэнку.

***Ключавыя словы:*** інтэрпрэтацыя мінулага, Вялікае Княства Літоўскае, родавы пункт гледжання, нараталогія, генеалогія.

# PERCEPTION OF THE PAST IN THE 16TH CENTURY: HISTORY OF GDL AS HISTORY OF A KIN

***Abstract:*** The article analyses the comprehension of the own past from the kinship perspective in the intellectual tradition of the Grand Duchy of Lithuania in the 16th century, on the basis of narratological methods adapted for historical issues. It is revealed how the "kinship" point of view influenced the attitudes to different historical events, their interpretation and estimation.

***Keywords:*** Interpretation of the Past, the Grand Duchy of Lithuania, Lineage Point of View, Narratology, Genealogy.

Выклад гісторыі, так ці інакш, мае ў сваёй аснове аповед пра мінулае, таму, на наш погляд, мэтазгодна пры даследаванні працэсу гісторыяпісання выкарыстоўваць набыткі тэорыі апавядання – нараталогіі (удалыя прыклады гэтага – шырокавядомыя працы Х. Уайта, Ф. Анкерсміта і іншых). Так, у межах нараталогіі быў распрацаваны падыход па вылучэнні “перцэптыўнага пункту гледжання”, г. зн. “прызмы, праз якую падзеі ўспрымаюцца”. Галоўным пытаннем у такім выпадку робіцца: “Чыімі вачыма наратар глядзіць на падзеі?” (Шмид, 2003: 125–126). У гэтай працы будзе здзейснена спроба паказаць, як “родавы пункт гледжання” інтэрпрэтаваў мінулае ВКЛ у XVI стагоддзі.

Самай яскравай праявай “родавай перспектывы” ў ВКЛ з’яўляецца ліст канцлера Альбрэхта Гаштольда да каралевы Боны Сфорцы (1525 г.). У ім аўтар выступае супраць сваіх палітычных праціўнікаў – Канстанціна Астрожскага і роду Радзівілаў, а таксама адмаўляе ўласны ўдзел у мяцяжы Міхаіла Глінскага. Пры гэтым зварот да мінулага тлумачыцца неабходнасцю даказаць “ужо прыроджаную ад продкаў маіх вернасць і адданасць [ВКЛ]”, абняслаўленую “яго ворагам” князем Канстанцінам Астрожскім (Gastold, 1857: 265). Такім чынам, звесткі аб даўніне павінны былі падмацаваць дасягненні самога канцлера, таму згадваюцца слаўныя чыны яго продкаў. Усё гэта завяршаецца тэзісам, “што прырода дзядоў пераходзіць на сыноў сыноў” (Gastold, 1857: 265, 269). Гэты пастулат, а разам з ім і “родавая перспектыва”, выкарыстоўваліся Гаштольдам і для паказу “чорнай гісторыі” сваіх ворагаў, таму ён падбірае факты, якія б сведчылі, што “русіны” здраджвалі ў мінулым, значыць здрадзяць і ў будучыні: напрыклад, “найвышэйшага князя русінаў – Слуцкага, якога два прадзеды боскім Казімірам, каралём і вялікім князем, сучаснага нашага найсвятлейшага пана бацькам, з той самай нагоды [імкненне захапіць уладу – Я. Г.] па заслугах былі пакараны смерцю” (Gastold, 1857: 260). Кола сваіх ворагаў канцлер ВКЛ апісвае менавіта ў катэгорыях роднасных сувязяў: акцэнтуецца ўвага на тым, што Канстанцін Астрожскі праз шлюб з прадстаўніцай роду Алелькавічаў зладзіў саюз з гэтым княскім домам (Gastold, 1857: 268). Таксама падкрэсліваецца, што Чартарыйскія, на якіх адных ускладзена Гаштольдам віна за забойства Жыгімонта Кейстутавіча, з’яўляюцца “братамі тых Слуцкіх і сваякамі папярэдніх змоўшчыкаў, русінаў” (Gastold, 1857: 269). Атрымліваецца, што ў Гаштольда адбор звестак грунтаваўся на неабходнасці падкрэсліць “генетычную” залежнасць учынкаў сучасных яму людзей ад паводзінаў продкаў.

Родавае бачанне мінулага прысутнічае і ў “рымскай легендзе” з другога летапіснага зводу Беларуска-Літоўскіх летапісаў, дзе сцвяр-

джаецца, што “с Крумпя народился Кгаштовт, а сс [так у тэксце – Я. Г.] Еикша народился Довоин, а з Кгровъжа народился Монвид” (Улащик, 1980: 129) і далей падкрэсліваецца, што ў часы Гедыміна быў “гетман на имя Кгаштолт з рожаю с Колюмнов”, які “ся народил с Кумпя” (Улащик, 1980: 95–96). Таксама згадваюцца ў летапісе пачынальнікі родаў Гальшанскіх і Гедройцаў (Улащик, 1980: 93). Такім чынам, асабліва ў выпадку Гаштольдаў, у легендзе зніто́ўваліся пачынальнікі родаў (Кумпя) і прадаўжальнікі.

Адзнакі “родавай” гісторыі выяўляюцца і ў “Аб пачатках, вывадзе, дзейнасці, справах рыцарскіх і ўнутраных слаўнага народу літоўскага, жамойцкага і рускага” (канец 70-х гг. XVI ст.) Мацея Стрыйкоўскага. Гэты твор прысвечаны князю Юрыю Алелькавічу Слуцкаму, да якога скіраваны наступны зварот: “Убачыш тут тады, Вашая Княская Міласць, упарадкаваную лінію продкаў сваіх і іх учынкаў” (Stryjkowski, 1978: 37). Акрамя таго, Стрыйкоўскі называе прычыны, якія прымусілі яго напісаць працу, у лік якіх уключаны: па-першае, што Юрый Алелькавіч – “нашчадак князёў літоўскіх і выпадае пакінуць яго генеалогію”, па-другое, неабходна пакінуць генеалогію тых родаў “ад князёў літоўскіх”, якія ўжо згаслі, па-трэцяе, варта адбіць аргументы непрыяцеляў Алелькавічаў, па-чацвёртае, трэба захаваць памяць пра мінулае нашчадкам” (Stryjkowski, 1978: 38). Адзначым, што “Аб пачатках...” у асноўным апісвае гісторыю не роду Алелькавічаў, а ўсяго ВКЛ, але само падкрэсліванне Стрыйкоўскім “генеалагічнага” напрамку ўласнай працы абмінаць не выпадае. Што характэрна, аргументацыя Стрыйкоўскага неабходнасці вываду “генеалогіі” Алелькавічаў выяўляе сугучнасць з “родавымі” гістарычнымі зацікаўленасцямі Альбрэхта Гаштольда: уславіць свой род (першая і чацвёртая прычыны) і адбіць пабудовы ворагаў (трэцяя прычына).

Аднак у наступнай сваёй працы – “Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсёй Русі” (1582 г.) – Стрыйкоўскі адзначыў, што “не збіраецца прыслужваць нічыім вушам, нікому ў праслаўленні родаў як старадаўніх, так і новаўзвышаных”, акрамя тых, хто працаваў на карысць дзяржаве (Stryjkowski, 1846: XL). Тут, як бачым, храніст адыходзіць ад прынцыпаў “родавай” гісторыі, але сам гэты адыход пацвярджае, што “родавы” пункт погляду існаваў у тыя часы і быў паказальна адкінуты хроністам.

Нягледзячы на тое, што прыклады ўяўленняў аб мінулым як шэрагу пакаленняў продкаў былі ўласцівы для індаеўрапейскіх народаў (напрыклад, германцаў (Дубровский, 2007: 201), у нетытулаванай літоўскай магнатэрыі яшчэ ў сярэдзіне XV ст. не было пачуцця гістарычнай пераемнасці з продкамі (Любая, 2009: 216). Як вынікае з прыведзенага вышэй, сітуацыя карэнным чынам змянілася ў першай

чвэрці XVI ст. – часе, які ў навуковай літаратуры акрэсліваецца як “пачатак фармавання гістарычнай памяці шырокіх колаў грамадства” ў ВКЛ (Skiepjan, 2011: 67) – тады ж магнаты (і сярод іх, перадусім, Альбрэхт Гаштольд) сталі галоўнымі інспіратарамі своеасаблівага “родавага” погляду на гісторыю. Пры гэтым, калі спачатку (Ліст Гаштольда да каралевы Боны) гісторыя роду сягала толькі да 2–3 пакаленняў (пра якія мелася вусная традыцыя, ці, кажучы словамі расійскага даследчыка М. Крома, якія з’яўляліся “актуальнай старыной” (Кром, 1994: 80–81), то з цягам часу магнацкія роды “набываюць” працяглую (і, зразумела, легендарную) генеалогію, якая мела на мэце паказаць высакароднасць іх паходжання (Канановіч, 2009: 134), прыклады чаго шырока рэпрэзентаваны ў “Аб пачатках…” Мацея Стрыйкоўскага.

***Бібліяграфія***


1. Шмид, В. (2003). *Нарратология.* Москва: Яз. славян. культуры.

2. Gastold, Albertus. (1857). Palatinus Vilnensis, Bone Sphortie, Regine Polonie. Acta Tomiciana, T. 7.

3. Улащик Н. Н. (ред.) (1980). Летописи белорусско-литовские, в Б.А. Рыбаков (ред.), Полное собрание русских летописей, Т. 35. Москва: Наука.

4. Stryjkowski, M. (1978). *O początkach, wywodach, dzielnościach, sprawach rycerskich i domowych sławnego narodu litewskiego, żemojdzkiego i ruskiego.* Warszawa: PIW.

5. Stryjkowski, M. (1846). *Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiej Rusi Macieja Stryjkowskiego:* 2 t. T. 1. Warszawa: Nakład Gustawa Leona Glüksberga.

6. Дубровский, И. В. (2007). “Историография”, в А. Я. Гуревич (ред.), Словарь средневековой культуры. Москва.

7. Любая, А. А. (2009). “Антычнасць у сістэме гістарычных і ідэалагічных уяўленняў Вялікага княства Літоўскага (сярэдзіна XV – першая палова XVI ст.)”, у Studia Historica Europae Orientalis, №2: 212–223.

8. Skiepjan, A. (2011). “Drogi kształtowania pamięci historycznej rodów magnackich Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI wieku – początkach XVII ieku”, w A. Skiepjan, N. Skiepjan, Tradycja – metody przekazywania i formy upamiętnienia w państwie polsko-litewskim, XV – pierwsza połowa XIX wieku. Warszawa.

9. Кром, М. (1994). ““Старина” как категория средневекового менталитета (по материалам Великого княжества Литовского XIV – начала

XVII вв.", в М. Кром, Mediaevalia Ucrainica: ментальність та історія ідей, Т. 3. Київ.

10. Канановіч, У. (2009). "Арыстакратычны род і сацыяльная памяць у Вялікім Княстве Літоўскім у Познім Сярэднявеччы", у Silva rerum nova: Штудыі ў гонар 70-годдзя Георгія Я. Галенчанкі. Вільня; Мінск.

# “ГЕНЕАЛОГІЯ ЛІТВЫ”: ДА ПРАБЛЕМЫ ЭВАЛЮЦЫІ ЭТНІЧНЫХ І САЦЫЯЛЬНЫХ СУПОЛЬНАСЦЯЎ У ПОЗНІМ СЯРЭДНЯВЕЧЧЫ І РАННІМ НОВЫМ ЧАСЕ

**АЛЕГ ДЗЯРНОВІЧ**

***Анатацыя:*** Ад першых прыгадак Літвы ў пісьмовых крыніцах XI–XII стст. гэты край выступае як паганскі, куды скіроўваецца місійная дзейнасць лацінскай царквы пры падтрымцы польскіх князёў, а таксама экспансіяніcцкая палітыка Кіеўскіх князёў. Але ёсць яшчэ і сацыяльнае вымярэнне даўняй Літвы. Узнікненне ў Літве одальнай (алоднай) уласнасці стала прычынай таго, што грамадскае развіццё пайшло па шляху ўзмацнення індывідуальных пачаткаў.

***Ключавыя словы:*** Літва, місіянерства, одаль (алод), землекарыстанне, прававая традыцыя.

# LITHUANIAN GENEALOGY: ON THE ISSUE OF EVOLUTION OF THE ETHNIC AND SOCIAL COMMUNITIES IN THE LATE MIDDLE AGES AND THE EARLY MODERN AGE

***Abstract:*** From the first mentionings of Lithuania in written sources of the 11th – 12th centuries, this region appears as a pagan land to which the missionary activity of the Latin Church is headed, supported by the Polish princes, accompanied by the expansionist policy of the princes of Kyiv. But there is also a social dimension of ancient Lithuania. The emergence of odal (allod) property in Lithuania was the reason for the social development to follow the way of strengthening an individual basis.

***Keywords:*** Lithuania, Missionary, Odal (Allod), Land Tenure, Legal Tradition.

Антыэвалюцыйны погляд на гісторыю этнічных і сацыяльных супольнасцяў Сярэднявечча дазваляе спараджаць ужо ў Найноўшым часе цэлую плойму гістарыяграфічных канцэпцый, у цэнтры ўвагі якіх знаходзяцца этнічныя інтэрпрэтацыі падзей палітычнай гісторыі. Ці заўжды “Літва” заставалася тым нязменным, вакол якога адбывалася паленіка ды цывілізацыйныя змены ў нашым рэгіёне? Каб адказаць на гэтае пытанне, неабходна прасачыць эвалюцыю канцэпту *Літва* на працягу, як для нашага рэгіёна, даволі працяглага тысячагадовага перыяду пісьмовай гісторыі. Паспрабуем засяродзіцца на пачатковым этапе функцыянавання Літвы ў гістарычным наратыве, а таксама на перыядзе максімальнага, у сэнсе абшараў і інстытутаў, пашырэння Літвы. Храналагічна гэтыя працэсы ахопліваюць позняе Сярэднявечча і ранні Новы час, а іх характарыстыка можа быць названая “генеалогіяй Літвы”.

***1. Першыя прыгадкі: Этап знешняй фіксацыі***

У 1002 г. Рымскі Папа Сільвестр ІІ надаў ахопленаму місіянерскімі ідэямі Бруна тытул archiepiscopus gentium – арцыбіскуп плямёнаў, што значыць – язычнікаў. Такім чынам, у Бруна не было канкрэтнага дыяцэзу, ён мусіў быў ствараць яго сам сярод навернутых на хрысціянства народаў.

Увосень 1008 г. разам з 18 спадарожнікамі выехаў у кірунку Прусіі. Як толькі яны ўвайшлі ў прускія пушчы, то былі схопленыя і прыведзеныя да мясцовага ўладара Нецімера. Далейшыя падзеі мы ведам толькі з паданняў. Ясна адно, што адбыўся рэлігійны дыспут, падчас якога Бруна схапіў ды кінуў у вогнішча паганскага ідала. За гэта сам быў асуджаны на спаленне. Аднак распаліць вогнішча пад Брунам не атрымалася, і прусы палічылі гэта боскім знакам.

Нецімер і 30 яго набліжаных, верагодна дружына, прынялі хрысціянства. Але гэта стварыла новы полюс супярэчнасці ў прускім грамадстве. Таму ў далейшым місія Бруна склалася няўдала. З уладанняў Нецімера ён накіраваўся далей і апынуўся ва ўладаннях іншага прускага лідара – Забедэна (Жэбедзіса). Там 9 сакавіка 1009 г. Бруна быў схоплены і на загад князька абезгалоўлены, а 17 з яго 18-і спадарожнікаў павешаныя. Галаву Бруна кінулі ў раку. У вельмі позніх крыніцах раку завуць Алстрай (*Alstros), і некаторыя даследчыкі атаясамліваюць яе з ракой Ятра (цяпер р. Ятранка), прытокам Моўчадзі.

Як бы там ні было, але “Кведлінбургскія аналы” – сусветная хроніка, складзеная каля 1025 г. у Кведлінбургскім абацтве ў Саксоніі, – каротка паведамляюць, што “Святы Бруна, які называўся Баніфацыям, арцыбіскуп і манах, быў абезгалоўлены на мяжы Русі і Літвы ў 11 год

сваёй падзвіжніцкай дзейнасці разам з 18 спадарожнікамі і 9 сакавіка ўзнёсся на неба".

Сёння верагоднае месца гібелі Бруна даследчыкі размяшчаюць на яцвяжскіх тэрыторыях, у працяглым рэгіёне паўночна-заходняй лініі Ваўкавыск – Наваградак, альбо на землях Панямоння. І гэты год – 1009 г. – сапраўды ёсць першай прыгадкай назвы "Літва" ў пісьмовых крыніцах.

Ужо прыблізна праз стагоддзе, у пачатку XII ст. мы сустракаем новыя згадкі пра Літву, але ўжо ў рускіх крыніцах. Ці розніцца ўспрыманне Літвы рускімі летапісцамі ад лацінскіх храністаў? "Нестар" заўжды падае "літву" ў множным ліку, і належыць яна да Яфетычных народаў, "яшася полунощныя страны и западныя". Самая ж фундаментальная характарыстыка "літвы" – гэта "языцы", што трактуецца, як паганцы. Апроч таго, у недатаванай частцы "Аповесці мінулых часоў" сцвярджаецца, што "літва", сярод іншых народаў, дае даніну Русі. Праўда, пад 1038 г. і 1040 г. адзначаны паходы Кіеўскага князя Яраслава на "ятвягі" і "літву". Гэтыя тры прыгадкі – усё, што мы маем пра Літву ў "Аповесці мінулых часоў".

У Летапісцы Пераяслаўля-Суздальскага сюжэт залежнасці Літвы ўзмацняецца, калі сцвярджаецца, што "літва" "испръва исконники данници и конокръмци". Гэты летапіс быў складзены, як мяркуецца, паміж 1214 і 1219 гг., але захаваўся ў спісе XV ст.

Праз надта вялікую фрагментарнасць паведамленняў такога кшталту мы не можам казаць пра рэальныя маштабы гэтай залежнасці, а таксама пра тое, ці ўся "літва" плаціла гэтую даніну. Для знешніх сузіральнікаў XI–XII стст. Літва – гэта, найперш, паганскі край, у якім праводзіцца місійная дзейнасць лацінскай царквы пры падтрымцы польскіх князёў, а таксама экспансіяніцкая палітыка Кіеўскіх князёў. "Аповесць мінулых часоў" адносіць "литву" да "всих языци" – гэта значыць да паганцаў. Этнічныя ацэнкі ў гэтых крыніцах не даюцца.

***2. Сацыяльнае вымярэнне старажытнай Літвы***

Узнікненне ў Літве одальнай уласнасці стала прычынай таго, што грамадскае развіццё пайшло па шляху ўзмацнення індывідуальных пачаткаў. Одаль – гэта выдзелены для сямейнага карыстання надзел сям'і, які з'яўляецца яе спадчыннай маёмасцю. Гэта значна адрозніваецца ад звычаяў абшчыннага карыстання, распаўсюджаных больш на ўсходзе, і з'яўляецца аналагам еўрапейскага "алоду".

Родавы ж прынцып не прадугледжваў безумоўнага неабмежаванага ўладання – зямля не магла адчужацца ад роду. Але гэта не перашкодзіла складванню індывідуальных форм распараджэння ўласнасцю. Не паз-

ней жа XIV ст. у дачыненні да князёў даніна страціла большую частку прыкмет кантрыбуцыі і пераўтварылася ў зямельную рэнту. І з той прычыны, што рэнта непасрэдна звязвае данніка з гаспадаром, складваецца не якая іншая, але феадальная залежнасць: над індывідуальнай рэальнай уласнасцю землеўладальніка ўзнікае намінальная ўласнасць валадара на гэтую ж зямлю. Такім чынам, заключае сучасны літоўскі гісторык Эдвардас Гудавічус, XIII—XIV стст. былі перыядам ранняга ці пачатковага феадалізму XIV ст.

У выніку, літоўскае грамадства складвалася на грунце індывідуальнай уласнасці, то бок складвалася феадальнае права, якое аб’ядноўвае ўладанне зямлёй з павіннасцямі, а ўмовы ўладання – з характарам павіннасцяў. Пры такіх абставінах асоба вылучаецца як прававы суб’ект. Пакаранне ўводзілася вялікакняскай уладай, але злачынствы супраць асобы ўспрымаліся як крыўда і зварочваліся кампазіцыямі (адплатай пакрыўджанаму, узнагароджаннем).

Тое, што одаль узнік раней за дзяржаву, паўплывала таксама на тое, што прысяга (разам з супрысяжнымі), а не судовае спаборніцтва, сталі асноўным крытэрыем доказу. Таксама існаваннем одаля прадыктаваныя надзвычай суворыя пакаранні за крадзяжы.

Яшчэ адзін сацыяльны след архаічнай Літвы захаваўся ў такім феномене, як “лейці”. Так у крыніцах называлі адну з групаў сялян, якія без выключэння належалі да дамену вялікага князя літоўскага. Артурас Дубоніс бачыць у “лейцях” этнічныя рысы гэтага сацыяльнага інстытута. Такім чынам, адбываецца прыўнясенне сацыяльнага вымярэння ў разуменне познесярэднявечнай Літвы.

У крыніцах XVI ст. рэгіён “Літва” ў межах ВКЛ адрозніваецца ад “Русі” сістэмай павіннасцяў феадальна-залежнага насельніцтва, прынамсі, пасля Аграрнай рэформы сярэдзіны XVI ст. У “Літве” гэта пераважна паншчына, на “Русі” – традыцыйная натуральная і грашовая даніна, пазней таксама чынш.

***3. Феномен прававой традыцыі***

XVI ст. у Вялікім Княстве Літоўскім адзначана ўсталяваннем прававой традыцыі (Статуты ВКЛ і Галоўны Трыбунал ВКЛ), якая захавала сваю юрыдычную сілу да пачатку XIX ст., а гістарычна значэнне яе адчувалася і надалей. Услед за Юліюшам Бардахам мы можам задаць пытанне: як здарылася, што Вялікае Княства Літоўскае дасягнула кадыфікацыі такога ўзроўню, якога не змагла стварыць Карона Польская і ніякая іншая дзяржава Усходняй і Цэнтральнай Еўропы? Якія прычыны паўплывалі на тое, што краіна, якая, аднак, не лічылася тагачасным еўрапейскім лідарам, у галіне заканадаўчай улады заняла та-

кое незвычайнае і нават выключнае месца? Вядомы польскі гісторык-правазнаўца сярод адказаў на гэтае пытанне называе таксама фактар "унутранай неадналітнасці Вялікага Княства і паўсталую тэндэнцыю да яе пераадолення".

На працягу XVII–XVIII стст. шмат якія з мінулых рэгіянальных адрозненняў у Рэчы Паспалітай паступова перасталі ўплываць на захаванне асобнасці Вялікага Княства. Але можна сцвярджаць, што прававая традыцыя зберагла Літву.

Аналіз падарожжа тэрміна "Літва" на працягу пяці стагоддзяў, пачынаючы ад першай прыгадкі ў 1009 г. і да стварэння Трэцяга Статута ВКЛ у 1588 г., ёсць добрай ілюстрацыяй нелінейнай змены сэнсаў гэтага азначэння. Ад пачатку этнічнае напаўненне было недзе на перыферыі семантычнага значэння "Літвы". Далей, на працягу XIV–XV стст. мы бачым канструяванне дзяржаўна-палітычнай традыцыі Літвы. Часткаю гэтага працэсу было ўзнікненне этнічнага складніка канцэпту "Літва", які часам гарманіраваў з усталяваннем дзяржаўна-палітычнай цэльнасці ВКЛ, а часам правакаваў узнікненне новых ментальных межаў (у тым ліку, радыкальны праект "лаціна як літоўская мова"). Нармалізаваць і стрымаць тэндэнцыі такога кшталту, якія маглі быць небяспечнымі для ВКЛ, здолелі дзве зусім розныя з'явы – усталяванне ўласнай высокай прававой традыцыі і негвалтоўная паланізацыя эліт ВКЛ.

# НАШЧАДКІ ГІСТАРЫЧНАЙ ЛІТВЫ – УКРАІНСКІ І БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ РУХІ Ў XIX СТ.: АГУЛЬНАЕ І АДМЕТНАЕ

СВЯТЛАНА ЛУГАЎЦОВА

***Анатацыя:*** Аўтар робіць спробу высветліць, чаму сярод нацыянальных рухаў, якія ў XIX ст. выйшлі з культурнай прасторы Вялікага Княства Літоўскага і ў выніку гістарычных падзей апынуліся пад адзінай уладай Расійскай імперыі, беларускі нацыянальны рух выявіўся аўтсайдарам.

***Ключавыя словы:*** этнас, нацыянальны рух, нацыя, нацыянальны міф, інтэлігенцыя.

# DESCENDANTS OF HISTORICAL LITHUANIA – UKRAINIAN AND BELARUSIAN NATIONAL MOVEMENTS IN THE 19TH CENTURY: THE COMMON AND THE DIFFERENT

***Abstract:*** The author makes an attempt to find out the reason of the phenomenon why the Belarusian national movement became an outsider among other national movements which in the 19th century went out of the cultural space of the Grand Duchy of Lithuania and as a result of historical events appeared under the united authority of the Russian Empire.

***Keywords:*** Ethnicity, National Movement, Nation, National Myth, Intelligentsia.

Грунтоўная манаграфія Т. Снайдэра "Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва і Беларусь, 1569–1999 гг." (2010) дазваляе вылучыць фактары, якія ў XIX ст. запавольвалі развіццё беларускага нацыянальнага руху ў параўнанні з літоўскім:

- адсутнасць у беларусаў нацыянальнай царквы;
- сацыяльнае (шляхецкае) паходжанне лідараў беларускага нацыянальнага руху;
- блізкасць беларускай мовы па паходжанні да славянскіх польскай і рускай моў, якія "спаборнічалі" паміж сабой на беларускіх землях;
- уплыў палітыкі расійскіх улад на замацаванне тэрміна "Литва" ў якасці этноніма балцкага народа;
- размяшчэнне беларускага этнасу ў XIX ст. у межах адной імперыі, што не давала магчымасці лідарам беларускага нацыянальнага руху выкарыстоўваць ў сваіх інтарэсах магчымасці міждзяржаўнай барацьбы;
- беларускія нацыянальныя дзеячы доўгі час адстойвалі федэралісцкую па сутнасці ідэю аднаўлення ВКЛ, літоўскія – з XIX ст. змагаліся за нацыянальную дзяржаву.

Першыя тры з пералічаных фактараў з'яўляюцца агульнымі як для беларускага, так і для ўкраінскага нацыянальных рухаў. Да пачатку XX ст. беларускае грамадства, як і ўкраінскае, у асноўным было сялянскім і пакутавала на тыя ж самыя структурныя недахопы. Як украінскае, так і беларускае сялянства адрозніваліся вельмі нізкім узроўнем пісьменнасці (Грицак, 2000: 100). Тым не менш, бурныя рэвалюцыйныя падзеі пачатку XX ст. даказалі большую палітычную сталасць украінскага нацыянальнага руху. Беларускі нацыянальны рух выявіўся аўтсайдарам у параўнанні са сваімі ўкраінскімі суседзямі, што было абумоўлена наступнымі прычынамі:

1. Украінцы ўвайшлі ў эпоху "Навейшага часу" не зусім "бездзяржаўнай" нацыяй. У XVII–XVIII стст. яны мелі палітычныя традыцыі самакіравання і самастойную кіруючую эліту. Выхадцамі з казацкага асяроддзя ў пачатку XVIII ст. была сфармулявана канцэпцыя гістарычнага развіцця ўкраінскага народа. Па вобразным выразе Наталлі Якавенка "ў водблісках развітальнага феерверку Мазепы" казацкая эліта здолела асэнсаваць пройдзены шлях праз прызму вечных пытанняў: "Хто мы? Куды ідзем? Чаго дамагаемся?" (Яковенко, 2005: 429).

2. На тэрыторыі Беларусі не было ніводнага ўніверсітэта, у той час як на тэрыторыі Украіны дзейнічалі Харкаўскі, Кіеўскі і Львоўскі ўніверсітэты. Універсітэт – жывы арганізм, асаблівы культурны феномен, развіццё якога часта ўступае ў супярэчнасць з дзяржаўнымі задачамі, якія ставіліся пры яго заснаванні. Яскравым прыкладам такой супярэчнасці стала дзейнасць Кіеўскага ўніверсітэта. Ён быў адкрыты

ў 1834 г. пасля падаўлення паўстання 1830–1831 гг. з мэтай выхавання мясцовага юнацтва ў "верноподданническом духе". Тым не менш, у красавіку 1838 г. ва ўніверсітэце выкрылі дзейнасць тайнай арганізацыі "Садружнасць польскага народа", падчас бурных падзей 1863 г. ён зноў заявіў пра сябе як антыўрадавы цэнтр (Петров, 2002: 46-51). Украінскія ўніверсітэты сталі "пастаўнікамі" кадраў для нацыянальнага руху. Менавіта іх выпускнікі ў XIX – пачатку XX стст. выпрацавалі стратэгію і тактыку нацыянальнага руху і ўвасобілі яе ў жыццё.

3. На тэрыторыі Беларусі земская рэформа пачала ажыццяўляцца толькі ў 1911 г. у той час, як на тэрыторыі Левабярэжнай Украіны менавіта тысячы фельчараў, аграномаў, статыстыкаў вялі штодзённую "мурашыную" працу ў кірунку развіцця нацыянальнай свядомасці ў сялянскім асяроддзі.

4. Украінскі нацыянальны рух у поўнай меры здолеў выкарыстаць магчымасці падзелу ўкраінскага народа паміж дзвюма імперыямі. Найбольш цяжкімі як для беларускага, так і для ўкраінскага нацыянальных рухаў лічацца 80–90-я гг. XIX ст. Аўтары, на наш погляд, найбольш поўнага і якаснага сінтэзу па гісторыі Беларусі лічаць, што "пасля разгрому гурткоў, звязаных з "Гоманам", беларускіх нацыянальна-палітычных арганізацый да пачатку XX ст. не існавала" (Біч і інш., 2005: 275). Што тычыцца развіцця ўкраінскага нацыянальнага руху ў той жа перыяд, то пасля выдання Эмскага ўказа 1876 г. члены грамадска-палітычнай арганізацыі "Кіеўская грамада" стварылі "камітэт 12-ці", які заняўся арганізацыяй выданняў за мяжой. У 1878–1882 гг. на грошы кіеўскіх таварышаў Міхаіл Драгаманаў выдаваў у Жэневе першы ўкраінскі палітычны часопіс "Громада". Але асноўны цэнтр украінскага нацыянальнага руху быў перанесены на заходнеўкраінскія землі. На сродкі палтаўскай памешчыцы Лізаветы Мілорадавіч-Скарападскай у Львове было створана літаратурна-навуковае таварыства імя Т. Шаўчэнкі. З 1880 г. там жа пачынае выдавацца штодзённая газета "Справа". У 1885 г. было заснавана палітычнае таварыства "Народная Рада"; у кастрычніку 1890 г. створана першая ўкраінская партыя – Руска-ўкраінская радыкальная партыя.

Сур'ёзнае напружанне ў аўстра-расійскіх адносінах у канцы 1880-х гадоў выклікала цікавасць з боку аўстрыйскага ўрада да ўкраінскага руху. Пад уплывам Вены ў 1890 г. нарадоўцы і польскія палітыкі ў Галіцыі пайшлі на кампраміс. Па ўмовах пагаднення, польская адміністрацыя краю дала згоду на адкрыццё яшчэ адной украінскай гімназіі (да гэтага часу ўжо існавала гімназія ў Львове) і яшчэ адной украінскай кафедры ў Львоўскім універсітэце. Адным з прамых наступстваў "новаэраўскай палітыкі" стаў прыезд у Львоў у 1894 г. М. Грушэўскага. Нягледзячы

на маладосць, ён узяў у свае рукі кіраўніцтва рэфармаваным таварыствам імя Т. Шаўчэнкі. Да 1913 г. таварыствам было выдадзена каля 800 тамоў навуковых і літаратурных публікацый. Польска-ўкраінскае пагадненне "новай эры" таксама паскорыла палітычную структурызацыю ўкраінскага жыцця. Незадаволеная "новаэраўскімі" кампрамісамі група нарадоўцаў зблізілася з крылом радыкальнай партыі, якое, у сваю чаргу, усё больш адмаўлялася ад сацыялістычнай ідэалогіі на карысць нацыянальнай ідэі. У 1899 г. яны падрыхтавалі глебу для стварэння Украінскай нацыянальнай дэмакратычнай партыі, якая і стала самай шматлікай палітычнай партыяй.

5. Паўнавартаснае развіццё нацыянальных рухаў немагчыма без стварэння ўласнага нацыянальнага міфа, агульнапрынятай схемы айчыннай гісторыі. На рубяжы XIX–XX стст. М. Грушэўскі стварыў сваю 10-томную "Гісторыю Украіны–Русі". На тэрыторыі Беларусі твор аналагічнага ўзроўню і маштабу не з'явіўся. Першы сур'ёзны падручнік па гісторыі Беларусі, напісаны М. В. Доўнар-Запольскім у 1920-я гады, дайшоў да чытачоў толькі ў 1994 г. (Доўнар-Запольскі, 1994).

6. Любы нацыянальны рух мае патрэбу ў матэрыяльным забеспячэнні. У заходнееўрапейскіх краінах асноўным мецэнатам нацыяналізму была мясцовая буржуазія. У гэтым сэнсе беларускі і ўкраінскі нацыянальныя рухі былі ў цяжкім становішчы. Практычна не існавала буржуазіі, якая б размаўляла на ўкраінскай ці беларускай мове і падтрымлівала мясцовую культуру. Тым не менш, узровень прамысловага развіцця Украіны ў другой палове XIX – пачатку XX ст. быў вышэйшым за беларускі. Колькасць багатых мецэнатаў, якія кшталту Чыкаленка і Сімірэнка, фінансавалі ўкраінскія выданні, аказвалі дапамогу культурным і навуковым арганізацыям, была нязначнай, але беларускі нацыянальны рух не меў і такой падтрымкі.

7. Колькасць беларускай інтэлігенцыі была найменшай сярод народаў, якія раней уваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай, што не дазволіла ніводнаму беларускаму гораду стаць цэнтрам беларускай культурнай абшчыны. Вільня, якая прэтэндавала на гэтую ролю, у выніку палітычных падзей XX ст. апынулася ў межах іншай дзяржавы.

### *Бібліяграфія*

1. Біч, М. і інш. (2005). *Гісторыя Беларусі*: У 6 т. 2000–2005. Т. 4. Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XIX ст.) Мінск: УП "Экаперспектыва".

2. Грицак, Я. Й. (2000). *Нарис історії України: формування модерної української нації XIX–XX ст.* Київ: Генеза.

3. Доўнар-Запольскі, М. В. (1994). *Гісторыя Беларусі.* Мінск: БелЭн.

4. Петров, Ф. А. (2002). *Формирование системы университетского образования в России.* В 4-х т. 2002. Т. 2: Становление системы университетского образования в первые десятилетия XIX в. Москва: Издательство МГУ.

5. Снайдэр, Т. (2010). Р*эканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва і Беларусь, 1569–1999 гг.;* пер. з англ. мовы. Мінск: Медысонт.

6. Яковенко, Н. (2005). Нарис історії середньовічної та ранньомодерної України. Київ: Критика.

# ДЗЯРЖАЎНЫ ПАТРЫЯТЫЗМ І НАЦЫЯНАЛЬНАЯ САМАІДЭНТЫФІКАЦЫЯ Ў БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКІМ ЛЕТАПІСАННІ XVI СТ.

ГАННА МІХАЛЬЧУК

***Анатацыя:*** Імкненне магнатэрыі Вялікага Княства Літоўскага да стварэння ўласных падмуркаў нацыянальнай і дзяржаўнай ідэі знайшло сваё адлюстраванне ў беларуска-літоўскіх летапісах XVI ст. У тэкстах летапісаў уводзяцца сюжэты і матывы, што будуюць і ўкараняюць новыя міфалагізаваную і дынастычную гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, ствараюць фактары, якія злучаюць "рускі" і "літоўскі" элементы Вялікага Княства Літоўскага і абгрунтоўваюць яго права на валоданне рускімі землямі.

***Ключавыя словы:*** беларуска-літоўскае летапісанне, нацыянальная самаідэнтыфікацыя, міфалагізаваная гісторыя, нацыянальны міф.

# STATE PATRIOTISM AND NATIONAL IDENTITY IN THE BELARUSIAN-LITHUANIAN CHRONICLES OF THE 16TH CENTURY

***Abstract:*** The attempts of magnates of the Grand Duchy of Lithuania to establish and create the bases of national and state idea were reflected in the Belarusian-Lithuanian chronicles of the 16th century. Through the Annals were introduced the subjects and motives that built and implemented the new mythologized and dynastic history of the Grand Duchy of Lithuania, as well as created factors for linking the "Ruthenian" and "Lithuanian" elements of the Grand Duchy of Lithuania, supporting the right of the Grand Duchy of Lithuania to obtain the lands of Ruś.

***Keywords:*** *Belarusian-Lithuanian Chronicle, National Identity, Mythologized History, National Myth.*

Эпоха Рэнесансу характарызуецца паўсюдным узмацненнем нацыянальнай і гістарычнай самасвядомасці, калі кожны народ імкнуўся да будавання ўласнага эга. З гэтай мэтай не толькі ствараліся новыя міфалагізаваныя гісторыі, якая выводзілі народы ад знатных продкаў, але і шукаліся канкрэтныя фактары дзяржаўнай уніфікацыі. Імкненне магнатэрыі Вялікага Княства Літоўскага да шукання і стварэння падмуркаў уласнай нацыянальнай і дзяржаўнай ідэі знайшло сваё адлюстраванне ў агульнадзяржаўным беларуска-літоўскім летапісанні XVI ст.: спісах Рачынскага, Красінскага, Румянцаўскім, Еўраінаўскім, Альшэўскім, Археалагічнага таварыства і Хронікі Быхаўца.

Узмацненне нацыянальнай самасвядомасці дзяржаўнай эліты Вялікага Княства Літоўскага было абумоўлена таксама ўзмацненнем палітычных пазіцый суседніх дзяржаў, Польскага Каралеўства і Маскоўскага княства, якія імкнуліся да палітычнага і культурнага ўплываў на землях Вялікага Княства Літоўскага. Як вынік – у беларуска-літоўскіх хроніках XVI ст. гісторыя Вялікага Княства Літоўскага паказана згодна з новымі палітычнымі арыентырамі. Адкінута агульнаруская канцэпцыя, прадстаўленая ў першым летапісным зводзе, – Беларуска-літоўскім летапісе 1446 г., дзе Вялікае Княства Літоўскае прадстаўлена як адзін з цэнтраў аб'яднання ўсходнеславянскіх земляў. Слова "рускі" выкінута нават з назвы летапісаў – "Хроніка Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага", замест "Хроніка Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага". Ані Русь, ані Польскае Каралеўства, паводле новай патрыятычнай канцэпцыі беларуска-літоўскіх хронік не мелі аніякага ўплыву на гісторыю Вялікага Княства Літоўскага. Тэксты летапісаў напоўнены знакавымі для гісторыі Вялікага Княства Літоўскага сімваламі, падзеямі, імёнамі. Уводзяцца новыя, выразна патрыятычныя сюжэты, у якіх галоўная роля адводзіцца заслугам беларуска-літоўскіх вялікіх князёў і магнатаў, учынкі якіх выразна проціпастаўляюцца, а нават і ўзвышаюцца над учынкамі польскай шляхты і маскоўскага баярства.

Найважнейшым нацыятворчым чыннікам у беларуска-літоўскіх хроніках XVI ст. з'яўляецца рымская дынастычная легенда: паходжанне вялікіх князёў літоўскіх ад рымскіх продкаў становіцца тым фактарам, які лучыць як "рускі", так і "літоўскі" элементы Вялікага Княства Літоўскага і абгрунтоўвае яго права на рускія землі. "Збіральнікамі" тэрыторыі Княства, таксама як і стваральнікамі палітычнай і культурнай прасторы, паводле легендарнай часткі беларуска-літоўскіх хронік з'яўляюцца прышэльцы-рымляне, а дакладней – вялікія князі літоўскія. Яны сваёй дзейнасцю ажыўляюць новыя прасторы: будуюць гарады, даюць назвы, пашыраюць межы дзяржавы. Карэннае насельніцтва,

яго мова, культура, выгляд, рэлігійная прыналежнасць не бяруцца пад увагу і не з'яўляюцца нацыястваральнымі чыннікамі. Паняцце народу ўключае выключна верхнюю частку грамадства і не ўключае люду.

Дэміургічная канцэпцыя, згодна з якой вялікія князі літоўскія арганізуюць новыя прасторы дзяржавы, выкарыстоўваюцца пры абгрунтаванні іх права на валоданне рускімі землямі. Вялікія князі літоўскія не заваёўваюць, але адбудоўваюць спустошаныя ханам Батыем і кінутыя прыроджанымі уладарамі рускія землі, адначасова засноўваючы на гэтых землях уласныя дынастыі. У хроніках падкрэсліваецца, што падчас выправы літоўскіх князёў на рускія землі там не было ўладароў. Далучэнне земляў адбываецца мірна. За выключэннем Полацка, які паводле хронік быў заваяваны літоўскімі войскамі. У хроніках аднак зазначана, што ў Полацку не было князя-ўладара, горадам кіравала веча.

Злучэнне і атаясамленне генеалогій рускіх і літоўскіх князёў адбываецца шляхам прыпісання рускім княжаскім радаводам фікцыйных продкаў з роду вялікіх князёў літоўскіх[1]. Фікцыйныя постаці літоўскіх князёў, нашчадкі рымлянаў, упісваюцца ў рускую дынастыю, згодна з тэкстам – атрымліваюць хрост і далей ужо называюцца "рускімі князямі", "русінамі". Прычым праваслаўны ("рускі") хрост у хроніках – з'ява лакальная, якая не мае агульнадзяржаўнага значэння (напрыклад, праваслаўны хрост вялікага князя Альгерда). Князі прымаюць праваслаўе, аднак не спрычыняюцца да распаўсюджвання праваслаўя ў дзяржаве. Хрост князёў у рускую веру заўсёды выкліваны неабходнасцю шлюбу з рускай князёўнай. Так, напрыклад, каб давесці, што дынастыя полацкіх князёў паходзіць ад рымлянаў, тэксты хронік апавядаюць не толькі аб захопе Полацка вялікім князем Мінгайлам і аб тым, што менавіта ён заснаваў дынастыю князёў полацкіх і наўгародскіх, але і аб хросце яго сына, полацкага князя Гінвіла. Князь Гінвіл жэніцца з цвярской князёўнай Марыяй, для якой хрысціцца ў рускую веру і з гэтага часу носіць імя Барыс (у Хроніцы Быхаўца – Юрый). Такім чынам, постаці Мінгайлы, а таксама Гінвіла/Барыса не толькі звязваюць полацкіх князёў з родам рымлян, але робяць мажлівым атаясамленне літоўскіх і рускіх князёў.

[1] Згодна з легендарнай часткай летапісаў полацкі князь Рагвалод паходзіць ад легендарнага князя Кунаса, аднаго з сыноў родапачынальніка вялікіх князёў літоўскіх рымскага патрыцыя Палямона. Прыклады згаданай стратэгіі можна таксама знайсці ў іншых легендарных радаводах вялікакняскіх магнатаў. Род Сапегаў, напрыклад, выводзіў сваё паходжанне ад князя Нарымонта Гедзімінавіча, унук якога Сунігайла Пунігайлавіч, паводле генеалагічнай легенды, ахрысціўся ў праваслаўную веру і ўзяў імя Сямён.

Для новай патрыятычнай канцэпцыі Вялікага Княства Літоўскага больш важным з’яўляецца паходжанне князёў ад легендарных рымскіх продкаў, чым іх прыналежнасць да якой-кольвек рэлігіі. У тэкст Хронікі Быхаўца ўводзяцца новыя хрысціянізаваныя сюжэты, якія падкрэсліваюць, што хрысціянізацыя земляў Вялікага Княства Літоўскага адбывалася ўласным шляхам, незалежным ад Польскага Каралеўства і Кіеўскай Русі. Яна звязваецца з імёнамі Вітаўта, Ягайлы і Пятра Гаштольда. Фактарам ідэнтыфікацыі становіцца не толькі агульны легендарны рымскі продак, але і прытрымліванне рымскіх звычаяў. Паленне целаў памерлых, культ лясоў і азёраў, “балванаў” (стодаў) – усё гэта ў летапісах прадстаўлена як захаванне традыцыяў продкаў–рымлянаў. Атаясамленне “паганскіх звычаяў” і “рымскіх звычаяў” з аднаго боку ўзмацняе канцэпцыю рымскага паходжання літоўскай шляхты, з іншага – з’яўляецца адказам на закіды польскіх і маскоўскіх хронік, у якіх падкрэслівалася “паганства” літоўскіх уладароў.

Аналіз беларуска-літоўскіх хронік XVI ст. паказвае на імкненне магнатэрыі Вялікага Княства Літоўскага да стварэння новай канцэпцыі нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, у межах якой злучаліся б як “рускі” так і “літоўскі” элементы Вялікага Княства Літоўскага. Новая канцэпцыя не толькі абгрунтоўвае права вялікіх князёў літоўскіх на рускія землі, падкрэслівае незалежны ад дзяржаваў-суседак гістарычны шлях Вялікага Княства Літоўскага, але і выразна акрэслівае месца Вялікага Княства Літоўскага ў мінулым і сучаснасці.

# АСЭНСАВАННЕ ПАГАНСТВА Ў ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ У КАНТЭКСЦЕ "РЫМСКАЙ ЛЕГЕНДЫ" У ТВОРАХ XVI СТ.

ДЗМІТРЫЙ СКВАРЧЭЎСКІ

***Анатацыя:*** У дакладзе разглядаецца асэнсаванне паганства ў ВКЛ у XVI ст. у кантэксце "Рымскай легенды". Аўтары XVI ст. імкнуліся прадставіць літоўскае паганства і міфалогію альбо як непасрэдна старажытнарымскія, альбо як генетычна з ім звязаныя. Рымскае паходжанне літоўскага паганства было дадатковым аргументам на карысць праўдзівасці "Рымскай легенды", а таксама сродкам для фарміравання рымскай ідэнтычнасці літоўскай шляхты.

***Ключавыя словы:*** паганства, міфалогія, ВКЛ, "Рымская легенда", антычнасць.

# UNDERSTANDING PAGANISM IN THE GRAND DUCHY OF LITHUANIA IN THE CONTEXT OF THE "ROMAN LEGEND" IN THE 16TH CENTURY'S WORKS

***Abstract:*** The comprehension of paganism in the GDL in the 16th century in the context of the "Roman Legend" is considered in this report. The 16th century authors aspired to present the Lithuanian paganism and mythology either as directly ancient Roman tradition, or as genetically connected with it. The Roman origin of the Lithuanian paganism was an additional argument of truthfulness of the "Roman Legend" and a means for formation of the Roman identity of the Lithuanian nobility.

***Keywords:*** Paganism, Mythology, Grand Duchy of Lithuania (GDL), "Roman legend", Antiquity.

У XVI ст. у ВКЛ захоўвалася не толькі памяць аб нядаўнім паганскім мінулым, але ў сялянскім асяродку яшчэ працягвалі існаваць паганскія абрады, звычаі, уяўленні. Іх апісвалі ў сваіх творах Мацей Стрыйкоўскі, Міхалон Літвін, Ян Малецкі, Ян Ласіцкі, Олаф Магнус, Паўль Одэрборн і інш. Сляды існавання паганскіх культаў у гэты перыяд таксама прасочваюцца і археалагічна. Так, напрыклад, на тэрыторыі Беларусі ў XVI ст. (і нават ў XVII ст.) яшчэ захоўваўся курганны пахавальны звычай (Дучыц, 1997: 77–78), прасочваюцца сляды ўшанавання культавага каменя каля в. Горкі Дзятлаўскага р-на (Ляўко, 2001: 141), святой крыніцы ля в. Кемяны Ашмянскага р-на (Зайкоўскі, 2002: 264); кераміка XVI ст. выяўлена на мяркуемай культавай пляцоўцы з ахвярнымі ямамі ў ваколіцах в. Заскаркі на Полаччыне (Клімаў, 2002: 223), рэчы XVI – пач. XVII стст. знойдзены на свяцілішчы ля в. Верхаўляны Бераставіцкага р-на (Зайкоўскі, 2002: 34) і г. д. Існаванне паганства ў XVI ст. пасля афіцыйнага хросту Літвы ў 1387 г. і Жамойціі ў 1413 г. патрабавала адмысловага тлумачэння і асэнсавання.

У XV ст. на старонках Хронікі Яна Длугаша ўпершыню з'яўляецца этнагенетычны міф аб паходжанні літвінаў ад рымлян. Варта адзначыць, што гэты міф тлумачыў паходжанне толькі балцкіх народаў: літвы, жамойтаў і яцвягаў. Ужо ў варыянце міфа, які запісаў Ян Длугаш, сустракаецца атаясамленне рымскага і літоўскага паганства, у тым ліку і багоў (Вулкан – агонь, Юпіцер ці Перкун – грымоты, Дыяна – лясы, Эскулап – змеі) (Długosz, 1868: 445).

З XVI ст. у хроніках і публіцыстычных творах ВКЛ пачынае актыўна распаўсюджвацца "Рымская легенда". Менавіта яна стала той формай, у якой адбылося асэнсаванне паганства ў ВКЛ. Старажытная рэлігія, якая захавалася ў XVI ст. зрабілася своеасаблівай ідэалагічнай зброяй. У ВКЛ назіралася цікавасць да паганскай спадчыны, бо яна наўпрост сведчыла аб старажытнасці літоўскага народа і яго рымскіх каранях. Непасрэднае перасяленне рымлян на тэрыторыю будучай Літвы азначала для аўтараў XVI ст. аўтаматычны перанос рымскага паганства ў Літву. Так, напрыклад, пры пахаванні легендарнага князя Сперы, сына Палямона, згадваецца, што яго пахавалі і ўсталявалі ў памяць ідала "подле римского обычая" (Улащик, 1980: 129).

Асэнсаванне паганства адбывалася некалькімі шляхамі: а) аўтаматычнае прызнанне паганскіх звычаяў і абрадаў рымскімі (напрыклад, у творы Міхалона Літвіна). Рымскімі лічыліся наступныя паганскія звычаі і абрады: пахавальны абрад (крэмацыя), ушанаванне стодаў, варажба, культ змяі (Эскулапа), ушанаванне агню, мора, пагоркаў, азёр, пячор, святых лясоў, культы пенатаў (духі хатняга агменю), лараў (боствы-апекуны дома, сям'і, грамады), лемураў (духі

продкаў), геніяў (асабістых апекуноў чалавека) і г. д. (Michalo Lituanus, 1615: 23); б) пошук рымскіх каранёў літоўскіх паганскіх звычаяў праз іх падабенства (напрыклад, у Мацея Стрыйкоўскага). Так, М. Стрыйкоўскі пісаў пра некаторых літоўскіх і жамойцкіх бостваў: Chauriari – быў богам вайны і баявых коней, якога параўноўвалі з Марсам; Gulbi – апякун кожнага чалавека, тоесны рымскаму генію; Goniglis – лясное бoства, якое суадносіцца з Фаўнам (Stryjkowski, 1846: 145–146).

Акрамя таго, старадаўні духоўны цэнтр балтаў "Ромава" ("Romowe") быў перанесены Палямонам, а яго назву аўтары XVI ст. (напрыклад, М. Стрыйкоўскі) услед за Пятром з Дусбурга выводзілі ад Рыму (Stryjkowski, 1846: 143). Таксама ў тагачаснай літаратуры сустракаюцца пэўныя спробы перанясення міфа пра Ромула і Рэма на тутэйшую глебу. Аўтар "Хронікі Літоўскай і Жамойцкай", апісваючы паходжанне Ліздзейкі, вярхоўнага паганскага святара пры Гедыміне, параўноўвае апошняга з паходжаннем Ромула і Рэма (Любкер, 2001: 39–40). У такім кантэксце заснаванне Вільні зводнымі братамі Ліздзейкам і Гедымінам ускосна параўноўвалася з заснаваннем Рыма Ромулам і Рэмам.

"Рымская легенда" сама па сабе падобная да этнагенетычнага падання аб паходжанні ўласна рымлян: перасяленне з Трої на чале з Энэем. Верагодна, што гэты міф мог стаць падмуркам для распрацоўкі літоўскага міфа аб паходжанні. Цікава прасачыць магчымы правобраз князя Палямона. Звычайна даследчыкі шукаюць рэальны гістарычны прататып. Аднак для міфа існаванне рэальнага персанажа не з'яўляецца абавязковай умовай для ўтварэння. На наш погляд, карані вобраза Палямона, як і сам сюжэт "Рымскай легенды", варта шукаць у антычнай міфалогіі. Палямон – даволі распаўсюджанае грэцкае імя. У грэкаў Палямон з'яўляўся сынам бога Гефеста і быў адным з арганаўтаў, таксама імя Палямон меў адзін з сыноў траянскага цара Прыама (Любкер, 2001: 9). Варта адзначыць, што матыў вандроўкі арганаўтаў у пэўных момантах сугучны з вандроўкай Палямона ў "Рымскай легендзе". Магчыма, міф пра паход Ясона таксама мог паслужыць крыніцай для стварэння "Рымскай легенды". Цікавым падаецца і другі варыянт, у якім Палямон з'яўляецца братам Энэя, родапачынальніка рымлян. Не менш цікавым з'яўляецца пазначэнне правадыра літоўцаў у "Хроніцы Быхаўца" – Апалон (Улащик, 1975: 129). З аднаго боку, гэтае імя сугучна з Палямонам. З іншага – бог Апалон у грэкаў меў азначэнне "Гіпербарэйскі", бо ён паходзіў з поўначы ды час ад часу наведваўся на сваю радзіму. "Літоўскі" Апалон у паданні таксама выпраўляецца на поўнач у пошуках радзімы: "I poszli na korablech morem na połnocz" (Улащик, 1975: 129). Такім чынам, вобраз Палямона ў "Рымскай легендзе" наўпрост адсылае чытача да антычнай міфалогіі.

“Рымская легенда” з ідэяй антычнага паганства выйшла за межы літаратурных твораў і стала часткай штодзённасці ў ВКЛ. Так, напрыклад, на рэверсе медаля XVI ст. побач з выявай герба “Пагоня” змяшчаецца надпіс: “Pro aris et focis” (“За алтары і агмяні”) (Galkus, 2009:131). Па сваім змесце праз паганскія сімвалы ён яскрава адлюстроўвае ідэю “рымскасці” літоўскай культуры. Цікавай з’явай стала запазычанне з рымскай пахавальнай традыцыі абраду пакідання “аболаў мёртвых” – манеты, якая пакідаліся памерламу, як плата за праезд у іншы свет. Звычайна ўкладаліся ў рот, альбо на вочы, каля галавы, на грудзі і інш. Іх знаходзяць падчас раскопак курганоў і грунтовых пахаванняў XVI–XVII стст. на тэрыторыі сучасных Літвы і Беларусі (Ляўко, 2001: 125, 137–138), (Svetikas, 1995: 121–151).

Асэнсаванне літоўскага паганства ў кантэксце “Рымскай легенды” павінна было стаць дадатковым аргументам на карысць праўдзівасці легенды, а таксама сродкам для фарміравання рымскай ідэнтычнасці літоўскай шляхты.

***Бібліяграфія***

1. Дучыц, Л. (1997). Познесярэдневяковыя курганы Беларусі. *Гістарычна-археалагічны зборнік,* №12, с. 77–79.

2. Зайкоўскі, Э. (2002). Вілія – сакральная рака балтаў і славян. *Матэрыялы па археалогіі Беларусі,* №5, с. 262–270.

3. Зайкоўскі, Э. (2002). Даследаванне свяцілішча ля в. Верхаўляны. *Матэрыялы па археалогіі Беларусі,* №5, с. 33–40.

4. Клімаў, М. В. (2002). Сярэднявечны культавы помнік Заскаркі ў ваколіцы г. Полацка. *Гістарычна-археалагічны зборнік,* №17, с. 218–224.

5. Любкер, Ф. (2001). Реальный словарь классических древностей. В 3 томах. Т. 3. Москва: “ОЛМА-ПРЕСС”.

6. Ляўко, В. М. (рэд.) (2001). Археалогія Беларусі. Т.4. Помнікі XIV – XVIII стст. Мінск: Беларуская навука.

7. Улащик, Н. Н. (ред.) (1975). *Полное собрание русских летописей.* Т. 32. Хроники: Литовская и Жмойтская, и Быховца. Летописи: Баркулабовская, Аверки и Панцырного. Москва: “Наука”.

8. Улащик, Н. Н. (ред.) (1980). *Полное собрание русских летописей.* Т. 35. Летописи Белорусско-литовские. Москва: “Наука”.

9. Długosz, J. (1868). *Jana Długosza kanonika krakowskiego Dziejów Polskich ksiąg dwanaście,* T. 3. Ks. IX, X; przekład K. Mecherzyńskiego. Kraków: W drukarni “Czasu” W. Kirchmayera.

10. Galkus, J. (2009). *Lietuvos Vytis.* Vilnius: Vilniaus dailės akademijos leidykla.

11. Lituanus, Michalo (1615). *De moribus Tartarorum, Lituanorum et Moschorum.* Basileæ.

12. Stryjkowski, M. (1846). *Kronika polska, litewska, żmodzka i wszystkiej Rusi Macieja Stryjkowskiego: 2 t.* T. 1. Warszawa: Nakład Gustawa Leona Glüksberga.

13. Svetikas, E. (1995). Monetos XIV – XVII a. lietuvos kapinynuose. *Lietuvos archeologija,* №11, p. 117–151.

# АСВЕТНІЦТВА Ў РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ: ІДЭЯ ФАРМІРАВАННЯ НОВАГА ГРАМАДЗЯНІНА

ЯНА ТАРАСЮК

***Анатацыя:*** У артыкуле разглядаецца працэс пераходу да новага разумення чалавека ў інтэлектуальнай культуры Рэчы Паспалітай эпохі Асветніцтва. Паказана, што асновай сацыяльна-палітычных вучэнняў гэтай эпохі стаў фізіякратызм, які ўводзіўся праз адукацыйную сістэму. Вынікам перамен стала ідэя чалавека як носьбіта, у першую чаргу, сацыяльных функцый.

***Ключавыя словы:*** Асветніцтва, сарматызм, фізіякратычная сістэма.

# EDUCATION IN THE POLISH-LITHUANIAN COMMONWEALTH: THE IDEA OF FORMING A NEW CITIZEN

***Abstract:*** The article discusses the process of transition to a new understanding of man in the intellectual culture of the Polish-Lithuanian Commonwealth of the Enlightenment. It is shown that the basis of social and political theories of this era was physiocracy introduced through the education system. The result of the changes was the idea of man as primarily a social functions carrier.

***Keywords:*** Enlightenment, Sarmatism, Physiocratic System, Polish-Lithuanian Commonwealth.

У сярэдзіне XVIII стагоддзя галоўнай задачай новага пакалення інтэлектуалаў Рэчы Паспалітай стала кшталтаванне адрознага ад сармацкай шляхты тыпу грамадзяніна. У гэты час была распачата барацьба са старым светапоглядам, які не даваў магчымасці праводзіць кардынальныя рэформы грамадства. Шляхта бачыла сябе прадаўжальнікам дэмакратычных традыцый, але яны ўжо не адпавядалі духу эпохі, якая ўсё болей набірала моц, – эпохі Асветніцтва з яе ідэямі натуральных правоў і роўнасці ўсіх людзей перад законам. Асветнікі ў сваіх прамовах у адзін голас казалі пра жахлівы стан, у якім знаходзіцца Рэч Паспалітая, пра неабходнасць зменаў у свядомасці грамадзян.

На чым грунтаваўся светапогляд традыцыйна настроенай шляхты XVIII стагоддзя? Перш за ўсё, гэта быў светапогляд людзей, якія адчувалі сябе элітай краіны, а таму і тыя ідэалы, якія прапаноўваліся прадстаўнікамі сармацкай шляхты, ніякім чынам не закраналі простага чалавека. Як адзначае Аркадыюш Стасяк (Stasiak, 2005: 149), "эгалітарызм сарматызму знайшоў адлюстраванне ў распаўсюджанасці функцыянавання ідэі патрыятызму як ахвяры". Асаблівую ролю тут гралі традыцыйныя хрысціянскія цноты, якія накіроўвалі чалавека да асабістай адказнасці і асаблівага шляху жыцця, маральнага подзвігу. Другім важным чыннікам, які ўплываў на фарміраванне эгалітарнасці сармацкай шляхты, стала ідэя родавай сувязі. Прадстаўнікі шляхты адчувалі адказнасць перад продкамі, імя абавязвала і да пэўнага тыпу паводзінаў. Асабліва выразна падкрэслівалася адказнасць за лёс краіны. Але гэтая адказнасць мела, перадусім, эмацыянальныя карані і вырастала з усведамлення, што вольнасць і веліч краіны здабываліся слаўнымі продкамі. Шляхецкая дэмакратыя і шляхецкія вольнасці – гэта ўзнагарода за барацьбу, таму спробы ўзмацнення каралеўскай улады сустрэлі моцны супраціў з боку шляхты.

Пакаленне інтэлектуалаў, якое сфармавала асветніцкую традыцыю ў Рэчы Паспалітай, разглядала праблему патрыятызму і стасункаў паміж чалавекам і дзяржавай рацыяналістычна. Яны спрабуюць элімінаваць рэлігійны і эмацыянальны фактар, падыходзячы да мінулага з крытычных пазіцый. Калі для сарматаў рэлігія, традыцыя і мінулае – гэта крыніца падтрымкі патрыятычных пачуццяў, то для асветнікаў падтрымка старых традыцый – гэта прычына адсталасці. Пры гэтым асветнікі таксама аперуюць паняццем "любоў да айчыны", укладаючы ў яго новыя элементы. Галоўным стала аптымістычна-прагрэсіцкае бачанне будучыні: асветнікі Рэчы Паспалітай вераць у магчымасць пазітыўных зменаў, бо на гэты шлях ужо сталі заходнееўрапейскія краіны, і зварот да іх досведу мусіў паскорыць адпаведныя працэсы ў сваёй дзяржаве.

Французскія асветнікі ўсведамлялі вялізную ролю, якую адыгрывае адукацыя ў развіцці грамадства. Яна разглядалася як адзін з надзейных і эфектыўных шляхоў уплыву на свядомасць. Асветнікі Рэчы Паспалітай актыўна падхапілі гэты напрамак дзейнасці. Яны ўбачылі ў панаванні езуіцкага спосабу выкладання прычыны агульнага інтэлектуальнага крызісу. Езуіцкая адукацыя, рэлігійная па сваёй сутнасці, выключала са свайго поля грамадска-палітычныя пытанні, з'яўляючыся выразнікам каталіцкай дактрыны. Прыхільнікі новых поглядаў, у першую чаргу тых, што былі прапанаваныя фізіякратычнай школай, верылі ў тое, што правільная агульная адукацыя сфарміруе такі тып грамадзяніна, які будзе жыць не ўласнымі інтарэсамі, а інтарэсамі ўсяго грамадства. Распрацоўкай такой праграмы навучання займалася створаная ў 1773 годзе. Адукацыйная камісія, заснавальнікамі якой былі не выкладчыкі школ і калегій, але палітычныя і грамадскія дзеячы (І. Храптовіч, А. Паплаўскі, І. Масальскі і інш.). Асноўнай яе мэтай стала ўніфікацыя школьнай і ўніверсітэцкай праграмы і падрыхтоўка пакалення, здольнага да крытычнага мыслення. Адначасова з гэтым фізіякратызм стаў галоўнай тэорыяй, якая выкладалася ў школах. Гэтая прыхільнасць да эканамічнай дактрыны прывяла да знікнення філасофіі ў навучальных курсах, што тлумачылася збыткоўнасцю тэарэтызавання. Прыярытэт аддаваўся тым навукам, якія маглі прынесці непасрэдную карысць. Своеасаблівай панацэяй бачылася ўвядзенне курса натуральнага права. Вывучэнне гэтай навукі, на думку асветнікаў, павінна было, нарэшце, прывесці да фарміравання пачуцця асабістай адказнасці чалавека за лёс грамадства, але гэтая адказнасць ужо вырастала не з эмацыйнай прывязанасці, але з разумення сувязі, якая існуе паміж уласным дабрабытам і дабрабытам усяго грамадства. Асновай такога бачання стала ідэя фізічна-маральнага парадку, праз якую тлумачылася існаванне грамадства і чалавека як сацыяльнай істоты.

У выніку асветнікі стварылі досыць утапічны праект выратавання краіны праз уздым патрыятычных пачуццяў сярод моладзі. Яны задаліся пытаннем, што мусіць чалавек рабіць не як істота, падуладная Богу і адказная толькі перад ім, але як носьбіт асаблівых рысаў таго грамадства, у якім ён існуе, як грамадзянін, адказны за лёс краіны. У выніку становіцца бачным, што асветнікаў не цікавіць чалавек асабіста, яны шукаюць узаемазалежнасць чалавека і грамадства, а да таго ж іх цікавіць і ўласна стан Рэчы Паспалітай. І сярод усяго яны высоўваюць сваё разуменне цнотаў "добрага грамадзяніна", грамадзяніна, які ўжо разумее сваю прыналежнасць да пэўнай традыцыі, ведае свае правы і абавязкі перад грамадствам. Гэтыя цноты паўсюль прапагандаваліся, а іх выкладанне павінна было стаць галоўнай задачай навучальных устаноў.

Такім чынам, асветніцкая праграма перабудовы грамадства грунтавалася на ідэі агульнай (свецкай па сваёй сутнасці) адукацыі, ідэі натуральнага права, а таксама на веры ў надзейнасць розуму, які, на думку асветнікаў, выступае гарантам правільнасці абранага шляху.

***Бібліяграфія***

1. Stasiak, Arkadiusz (2005). *Patriotyzm w myśli konfederatów barskich.* Lublin: Towarzystwo Naukowe KUL.

# ШЛЯХ ДА ДЫСКРЫМІНАЦЫІ ЦІ СТРАТА МАГЧЫМАСЦЕЙ НА ПОЎНАЕ ПЕРШЫНСТВА Ў ДЗЯРЖАВЕ? МЕСЦА І РОЛЯ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЗНАЦІ Ў ПАЛІТЫЧНЫМ ЖЫЦЦІ ВКЛ (КАНЕЦ XIV – ПЕРШАЯ ТРЭЦЬ XV СТСТ.)

УЛАДЗІМІР ФЁДАРАЎ

***Анатацыя:*** У артыкуле разглядаецца становішча праваслаўнай знаці ў палітычнай эліце ВКЛ, яе роля ў правядзенні ўнутранай і знешняй палітыкі дзяржавы ў перыяд з Крэўскай уніі да смерці вялікага князя Вітаўта.

***Ключавыя словы:*** ВКЛ, баяры, праваслаўе, каталіцызм, Крэўская унія.

# A WAY TO DISCRIMINATION OR LOST OPPORTUNITIES TO DOMINATE IN THE STATE? THE PLACE AND ROLE OF THE ORTHODOX NOBILITY IN POLITICAL LIFE OF THE GRAND DUCHY OF LITHUANIA (LATE 14TH – FIRST THIRD OF THE 15TH CENTURY)

***Abstract:*** The article analyses the position of the Orthodox nobility in the political elite of the GDL, its role in the internal and foreign policy of the state during the period between the Union of Kreva and the death of Grand Duke Vitaut.

***Keywords:*** GDL, Bajary, Orthodoxy, Catholicism, Kreva Union.

Крэўская ўнія і рэалізацыя Ягайлам яе пастаноў адкрылі новы этап у гісторыі ВКЛ. Азначаныя мерапрыемствы, сярод іншага, адбіліся і на становішчы знаці гэтай дзяржавы. Каталіцкі хрост манарха і Літвы, упрывілеяванне актамі ад 20 і 22 лютага 1387 г. літоўскіх баяр-каталікоў паставілі крыж на верагодным прыняцці праваслаўя ў якасці дзяржаўнай рэлігіі і магчымасці дасягнення праваслаўнай знаццю поўнага першынства ў дзяржаве (падставы для чаго да 1385 г. стваралі рэлігійныя канверсіі большасці Гедзімінавічаў і некаторых менш значных прадстаўнікоў літоўскай знаці). Сістэма, якая ўсталявалася ў выніку названых трансфармацый больш-менш паступова і стабільна развівалася цягам наступных трыццаці гадоў. Смерць вялікага князя літоўскага Вітаўта ў канцы 1430 г. адкрыла новы этап у гісторыі ВКЛ. Наданне прывілеяў нобілям-каталікам віленскімі актамі 1387 г. і Гарадзельскім прывілеем 1413 г. у гістарыяграфіі пераважна трактуюцца як дыскрымінацыйныя захады ў адносінах да праваслаўнай знаці. Але дзеля стварэння больш поўнай карціны трэба прасачыць, наколькі моцна дзейнічалі пастановы дадзеных дакументаў у рэальнай практыцы. Як падаецца, найбольш аб'ектыўна гэта можна зрабіць на падставе аналізу прысутнасці праваслаўных князёў і баяр у спісах сведкаў міждзяржаўных пагадненняў і велікакняскіх актаў, заняцця імі адміністрацыйных пасад, памерамі іх зямельных трыманняў і роднаснымі сувязямі з найвышэйшай арыстакратыяй не толькі ВКЛ, але і суседніх дзяржаў.

Да крытэраў, паводле якіх можна казаць пра праваслаўнае веравызнанне таго ці іншага нобіля, адносяцца: 1) прамое сведчанне крыніцы на гэты конт; 2) наяўнасць хрысціянскага імя ў перыяд да Крэўскай уніі (пры выкарыстанні гэтага крытэрыя ў посткрэўскі перыяд трэба быць больш асцярожным, паколькі шэраг імёнаў характэрны як для праваслаўнай, так і да каталіцкай традыцыі); 3) прыналежнасць да "рускай веры" патомкаў прадстаўніка знаці, чыё веравызнанне дакладна невядома, а жыццё прыпала на канец XIV – пачатак XV стст.; 4) адсутнасць ў спісах сведкаў уплывовага баярскага роду, прадстаўнікі якога часта выступалі разам з адаптаванымі ў Гародлі нобілямі, у пераліку тых, хто атрымаў польскія гербы ў 1413 г. (выпадак Зяновічаў).

У першыя гады пасля Крэўскай уніі найбольш значныя прадстаўнікі праваслаўнай знаці працягвалі ўтрымліваць свае ранейшыя пазіцыі ў палітычнай эліце дзяржавы. Так, да 1392 г. намеснікам Ягайлы ў ВКЛ з'яўляўся яго праваслаўны брат Скіргайла, шматлікія нашчадкі Гедзіміна – вызнаўцы хрысціянства ўсходняга ўзору – працягвалі трымаць княствы на Русі. Такі стан рэчаў быў абумоўлены іх паходжаннем, ранейшым статусам і ўплывам ў дзяржаве. Праўда, хутка пазіцыі праваслаўнай арыстакратыі былі падарваныя мерапрыемствамі

Вітаўта па цэнтралізацыі дзяржавы. Месцы ўдзельных князёў на Русі занялі пераважна прадстаўнікі каталіцкага баярства з абмежаванымі паўнамоцтвамі. Як падаецца, менавіта ўнутраная палітыка гэтага Кейстутавіча, якая не насіла характару рэлігійных абмежаванняў, адыграла галоўную ролю ў паслабленні пазіцый праваслаўнай знаці.

Але і пасля рэалізацыі цэнтралізацыйных мерапрыемстваў Вітаўтам князі і некаторыя прадстаўнікі баярскіх родаў праваслаўнага веравызнання захоўваюць свой высокі статус, працягваюць займаць першыя месцы ў спісах сведкаў міжнародных пагадненняў і высокія дзяржаўныя пасады. Праўда, непасрэдна пры велікакняскім двары бачна амаль поўнае дамінаванне каталікоў. Іх пастаянная прысутнасць побач з вялікім князем надавала дадатковыя магчымасці ўплываць на ягоныя рашэнні.

Высокае, калі не дамінуючае, становішча найбуйнейшых каталіцкіх родаў з ліку літоўскага баярства, якога яны дасягнулі ў канцы XIV – пачатку XV стст., замацаваў Гарадзельскі акт ад 2 лістапада 1413 г. Ён працягваў ранейшую традыцыю ўпрывілеявання часткі каталіцкага набілітэту. Але прыняцце гэтых пастаноў не з’яўлялася нечым радыкальна новым. Хутчэй, яно ішло ў рэчышчы палітыкі, якая стала праводзіцца асабліва актыўна пасля 1392 г. Зніжэнне агульнай ролі праваслаўных удзельных князёў у палітычным жыцці дзяржавы ішло якраз паралельна з узростам вагі вышэйшага літоўскага баярства (пераважна ахрышчанага паводле рымскага абраду) і ўпрывілеяваннямі каталіцтва як афіцыйнай канфесіі. Гарадзельскі акт чарговы раз пацвердзіў і замацаваў гэтую тэндэнцыю. Але і пасля пастаноў, прынятых у Гародлі, у вышэйшай палітычнай эліце ВКЛ працягвалі прысутнічаць прадстаўнікі не толькі княскіх (Гедзімінавічы, Гальшанскія), але і баярскіх (Зяновічы, Хадкевічы) родаў праваслаўнага веравызнання.

Такім чынам, “руская вера” і пасля Гарадзельскіх пастаноў не стала прычынай, паводле якой яе вызнаўцы з ліку знаці не маглі належаць да вышэйшых палітычных колаў дзяржавы. І таму разглядаць захады велікакняскай улады ў канцы XIV – першай трэці XV стст. у адносінах да праваслаўнай знаці як выразна дыскрымінацыйныя падаецца не зусім карэктным. Як і раней, асабісты статус і ўплыў ў палітычным жыцці дзяржавы таго ці іншага нобіля былі абумоўлены перадусім ягоным паходжаннем і роднаснымі сувязямі, блізасцю да вялікага князя, а таксама пасадай і памерам трыманняў. Але пры гэтым неабходна адзначыць, што прадстаўнікі “новых родаў” з ліку каталіцкага баярства сталі мець больш шанцаў на ўваходжанне ў “блізкае кола” вялікага князя, а заканадаўчая традыцыя абмежавання праваслаўных па меры развіцця дзяржаўных і грамадскіх інстытутаў ВКЛ набірала моц і прыкметна ўплывала на ўнутрыпалітычнае становішча ў дзяржаве.

# ІНТЭГРАЦЫЯ ІНФЛЯНЦКАЙ ШЛЯХТЫ Ў САЦЫЯЛЬНЫЯ СТРУКТУРЫ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА Ў XVI–XVIII СТСТ.

ВІКТАР ЯКУБАЎ

***Анатацыя:*** Тэкст прысвечаны праблеме ўзаемадзеяння паміж прывілеяваным насельніцтвам ВКЛ і інфлянцамі у XVI–XVIII стст. Робіцца выснова аб паступовым змякчэнні палітыкі цэнтральных улад адносна нямецкага насельніцтва – ад спробы пазбаўлення правоў пры Стэфане Баторыі да прызнання раўнапраўя інфлянцаў з грамадзянамі Рэчы Паспалітай пры Жыгімонце Вазе. Поспех у інтэграцыі і сацыяльнай мабільнасці інфлянцаў залежаў ад знешнепалітычных фактараў, іх асабістых здольнасцяў і сваяцкіх сувязяў з магнатэрыяй ВКЛ.

***Ключавыя словы:*** інтэграцыя, прававы статус, каланізацыя, Інфлянты, мабільнасць.

# INFLANTY (LIVONIAN) NOBILITY (SZLACHTA) INTEGRATION IN THE SOCIAL STRUCTURES OF THE GDL IN THE 16TH – 18TH CENTURIES

***Abstract:*** The text is dealing with the issue of relations between the nobility of the GDL and the Germans from the Right Bank of Livonia (Inflanty) in the 16th – 18th centuries. A conclusion is made about a gradual ease of the central administration's policy for the German population – from the attempts of deprivation of rights under Stephen Báthory to the recognition of equal rights of the German nobility with the citizens of the Polish-Lithuanian Commonwealth in 1607. Inflantys' integration and social mobility success depended on the foreign policy factors, their personal abilities and family ties with the GDL nobility.

***Keywords:*** Integration, Legal Status, Colonization, Inflanty (right-bank Livonia), Social Mobility.

Даследаванні эвалюцыі сацыяльных структур і розных форм ідэнтычнасці, метады забеспячэння сістэмных сувязяў і барацьбы за захаванне межаў асобных сацыяльных груп з'яўляюцца актуальнымі для сучасных міждысцыплінарных гуманітарных распрацовак. У Вялікім Княстве Літоўскім (ВКЛ), як у іншых еўрапейскіх феадальных дзяржавах перыяду XVI–XVIII стст., існавала закрытая станавая сацыяльная сістэма стратыфікацыі. Абараняючы манаполію на прэстыжныя статусы грамадскай сістэмы, Статуты 1529 і 1588 гг. забаранялі займанне любымі іншаземцамі, нават палякамі, дзяржаўных пасад ВКЛ. Пасля Інфлянцкай вайны 1559–1582 гг. шляхецкае грамадства ВКЛ і Польшчы сутыкнулася з задачай інтэграцыі груп прывілеяванага остзейскага нямецкага насельніцтва. Інтэграцыя ўскладнялася розніцай моваў, культур, канфесій.

Страта ВКЛ украінскіх зямель і перавод Інфлянтаў у супольны васалітэт да манарха ВКЛ і Польшчы прывялі да працяглай палітычнай барацьбы за першынства ў Інфлянтах. Паводле "Інфлянцкай Канстытуцыі 1589 г." быў афіцыйна абвешчаны кандамініум Літвы і Кароны ў Інфлянтах. Падаткі падзяляліся паміж ВКЛ і Каронай, уладныя пасады ад старостаў і вышэй маглі займаць толькі караняжы і літвіны. Больш за тое, пачалася рэвізія і канфіскацыя зямель, прысвоеных нямецкімі феадаламі падчас Інфлянцкай вайны. Частка інфлянцкай шляхты заявіла пратэсты і не з'яўлялася на перапісы з 1583 па 1599 гг. Шляхам канфіскацый быў сфармаваны дзяржаўны зямельны фонд, у якім было акумулявана 2/3 земляў паўднёвай Эстоніі. Іх атрымлівалі ў асноўным шляхцічы ВКЛ і Кароны, што стварала этнічную базу для інкарпарацыі правінцыі ў склад Рэчы Паспалітай (РП). За апошнюю чвэрць XVI ст. каланісты з ВКЛ і Кароны фактычна манапольна авалодалі адміністратыўнымі пасадамі і склалі каля 30% прывілеяванага насельніцтва Інфлянтаў, адсунуўшы мясцовых немцаў на другарадныя пазіцыі.

Палітычнае становішча інфлянцаў палепшылася ў 1598 г., калі немцы былі дапушчаны ў Сенат і на Вальны сойм РП (2 караняжа, 2 літвіна, 2 немцы ад правінцыі), а таксама да альтэрнаты (квоты на пачарговае займанне пасадаў) у правінцыі нароўні з палякамі і літвінамі. Але негатыўны досвед каланіяльнай палітыкі РП адгукнуўся падчас вайны са Швецыяй 1600–1609 гг., калі ў 1600–1602 гг. да 2/3 інфлянцкіх немцаў сталі "здраднікамі РП" і апынуліся ў праскрыпцыйных спісах (спісы асуджаных на канфіскацыю маёмасці і смяротнае пакаранне). Тым не менш "Інфлянцкая ардынацыя 1607 г." дапусціла нямецкую шляхту да атрымання ўладанняў і пасад у сваім краі "як агульнай Рэчы Паспалітай абывацеляў" і дазволіла ажыццяўляць аперацыі з маёмас-

цю не толькі ў правінцыі, але і на тэрыторыі ВКЛ і Кароны на тых жа правах, што і мясцовым жыхарам.

Складанасці з інтэграцыяй палягалі і ў рэлігійнай сферы: большасць немцаў былі лютэранамі, прадстаўнікі эліты ВКЛ – альбо католікамі, альбо кальвіністамі. Інфлянцы знайшлі сабе апекуноў сярод Талвашаў, Сапег, біржанскіх Радзівілаў ды і самі фундавалі пратэстанцкія зборы на тэрыторыі ВКЛ. З перамогай Контррэфармацыі ў РП некаторыя сем'і, напрыклад Тызенгаўзы і Плятэры, падзяліліся на каталіцкія і пратэстанцкія галіны.

Найбольш спрыяльнымі перыядамі для інтэграцыі немцаў у сацыяльныя структуры ВКЛ былі: 1) панаванне Жыгімонта Вазы пасля пачатку кампаній супраць Швецыі ў 1598 – 1629 гг. (у гэты час палітычныя кар'еры ў РП зрабілі: Фарэнсбахі, Коссы, Тызенгаўзы, Бутлеры); 2) пачатак каралявання Уладыслава Вазы (Плятэнбергі, Плятэры); 3) панаванне саксонскай дынастыі і пачатак каралявання Станіслава Аўгуста Панятоўскага, калі остзейцы апынуліся на пачэсных пасадах у ВКЛ, несуразмерных з іх колькасцю ў РП (Тызенгаўзы, Гільцэны); 4) пры падзелах РП і на пачатку кіравання Расійскай імперыяй зрабілі кар'еры фон Гутэн-Чапскія і Плятэры. Найбольш інтэграванымі ў структуры ВКЛ былі заможнейшыя з інфлянцаў: Бутлеры, Плятэры і Тызенгаўзы, якія ў XVII ст. ужо ўвайшлі ў кола павятовых эліт ВКЛ. Пры кожным з манархаў РП па два-тры прадстаўнікі інфлянцкіх немцаў рабілі добрыя кар'еры, дзякуючы асабістай прыхільнасці манарха ці ўласным якасцям, у залежнасці ад сітуацыі.

Пры Стэфане Баторыі і Жыгімонце Вазе назіралася каланізацыйная палітыка і спробы сілавой інкарпарацыі на ўмовах РП, шляхта якой разглядала мясцовыя землі як здабычу, не шукала палітычных саюзнікаў і часта адмаўляла тутэйшыя традыцыі. Гэта прыводзіла да самаабмежавання шлюбных партнёраў большасці нямецкіх фамілій сваімі аднапляменнікамі (Корны, Гільхены, Плятэры). Найбольш удалая інтэграцыя немцаў у сацыяльную сістэму суправаджалася вайсковай і цывільнай службай, набыццём маёнткаў і замацоўвалася шлюбамі з прадстаўніцамі ВКЛ (Бутлеры і Коссы з Вансовічаўнамі, Тызенгаўзы з Сапежанкамі, Фарэнсбахі з Кісялёўнамі ў 1620-я гг., Корфы з Агінскімі ў сярэдзіне XVII ст., Гутэны з Радзівілаўнамі ў канцы XVIII ст.).

У адрозненне ад асноўных этнічных груп РП, інфлянцы за XVI–XVIII стст. не здолелі назапасіць вялікіх багаццяў, выйсці ў кола магнатаў РП ці зрабіць значных кар'ераў у рэлігійных і адукацыйных структурах ВКЛ. Сваяцкія сувязі і кліентальныя адносіны з магнацкімі групоўкамі былі найбольш эфектыўнымі механізмамі для палітычных кар'ер і інтэграцыі інфлянцкай шляхты ў сацыяльныя структуры ВКЛ.

***Бібліяграфія***

1. Тарвел, Энн (1964). *Фольварк, пан и подданый: аграрные отношения в польских владениях на территории южной Эстонии в конце XVI – начале XVII вв.* Таллин: Издательство АН ЭССР.

2. Akta Synodów prowincjalnych Jednoty Litewskiej 1611–1625 (1915), w Zbiór Pomników Reformacji koscioła polskiego i litewskiego, Serja IV, Zeszyt II. Wilno, Warszawa: Druk. Ginsa.

3. Bonecki, A. (1899–1913). Wiadomości historyczno–geneologiczne o rodach szliacheckich w Herbarz Polski, T. I-XVI: A-M, Cz. 1. Warszawa: G. Gebathner i Wolf.

4. Niesiecki, K. (1839–1846). *Herbarz polski: w X t.* T. I–X. Lipsk: Nakladem i drukem Breitkopfa i Haertela.

5. Uruski, S. (1904–1931). *Rodzina herbarz szlachty polskiej.* T. 1–14. Warszawa: G. Gebathner i Wolf.

# JOHN CALVIN'S CORRESPONDENCE WITH GDL REFORMED LEADERS: PHASES OF THE CALVIN/GDL RELATIONSHIP WITH OUTCOMES FOR POLITICAL THEOLOGY

BRUCE ANDERSON

***Abstract:*** Using historical theology methodology, this research seeks insights from the commonly cited correspondence of John Calvin with GDL (Grand Duchy of Lithuania) Reformed leaders. Through extensive source analysis with attention to formation of theological ideas, it finds Calvin's relationship to GDL Reformed leaders involved three phases. Despite relationship setbacks, GDL Reformed leaders ultimately rejected socio-political radicalism in favour of Calvin's political theology as a basic platform.

***Keywords:*** John Calvin, GDL Reformed, Political Theology.

***Анатацыя:*** Праз выкарыстанне метадалогіі гістарычнай тэалогіі гэтае даследаванне вывучае шырока цытаваную карэспандэнцыю Джона Кальвіна з лідарамі Рэфармацыі ў ВКЛ. Грунтоўны аналіз крыніц з увагай да фармавання тэалагічных ідэй дазваляе вылучыць тры фазы стасункаў Кальвіна з лідарамі Рэфармацыі ў ВКЛ. Нягледзячы на праблемы ў стасунках, лідары Рэфармацыі ўрэшце адмовіліся ад сацыяпалітычнага радыкалізму на карысць палітычнай тэалогіі Кальвіна як асновы.

***Ключавыя словы:*** Джон Кальвін, Рэфармацыя ў ВКЛ, палітычная тэалогія.

Historians have long been interested in the influence of John Calvin on GDL, widely referencing Calvin's interaction with GDL and sometimes investigating the GDL Reformed movement in-depth. However, while Calvin's relationship to the GDL is often discussed as a secondary element in discourses on wider topics of GDL history, more attention could be given to extensive source analysis of the correspondence itself, found in Calvini Opera. In addition, most research to date has been done by social or cultural historians, not theologians. But an approach from the discipline of theology oriented to the development of theological ideas could yield new insights. After all, theology is a major element in the Calvin / GDL relationship.

The research question addressed in this paper is: What do we learn from Calvin's correspondence about the nature of Calvin's relationship with GDL Reformed leaders, and, in particular, whether their relationship was conducive to reception of Calvin's political theology?

Using historical theological methodology which focuses on the development of theological thought, this study examines the correspondence of Calvin with GDL Reformed leaders. It employs quantitative analysis of correspondences contained in Calvini Opera as well as narrative interpretation of the correspondence between Calvin and GDL leaders, especially considering influences on their political theologies. From this, phases of the relationship are identified. Then, in light of these findings, Calvin and GDL Reformed's political theologies are compared to assess whether they are aligned.

Findings show Calvin's correspondence with GDL Reformed is indeed substantial and helps construct a narrative of their relationship. The correspondence contains 171 letters sent to and from Poland-Lithuania by forty-six (46) different parties, with Calvin writing twenty-six (26) different correspondents in Poland-Lithuania and receiving letters from twenty-three (23) different Polish-Lithuanian letter writers. Among GDL Reformed, Calvin corresponded most with Mikalaj "the Black" Radzivil. His correspondence also includes other key GDL Reformed figures such as Lismanino and Sarnicki.

The narrative of Calvin's relationship with the Polish-Lithuanian Reformed church portrays several phases in the relationship. From 1549–1556, Calvin's approach was one of enthusiasm, promotion, and hope. But in 1557, he turned down the invitation to come to Poland-Lithuania and at the same time supported Lismanino, whose actions had strongly disappointed Sigismund II Augustus. Added to that, Calvin played a central role in the spike of the Biandrata controversy. All of this created tension and conflict in his relationship with Poland-Lithuania. Calvin's epistle dedicatory to Radzivil in 1560 may have added more injury to the relationship during this 1557–1560 period of strained relationship. Controversies of Antitrinitarians and then

Anabaptists brought Calvin to a period of weariness and even disengagement in 1560–1564. Ironically, just before Calvin's death the schism within the GDL Reformed church was resolved and the Swiss-aligned Reformed GDL church was sustained against the Antitrinitarians and Anabaptist radicalism. After Calvin's death, both Radzivil and Sigismund took steps back from such radicalism for which they had previously made some allowance.

Calvin's political theology was shaped in part from his response to the ecclesiastical powers and jurisdiction of the Roman church and the theology and socio-political radicalism of Anabaptists. Calvin's Institutes is the most significant theological achievement in his career and the 1536 edition was followed by those of 1539, 1543, 1550, and 1559, all of which contain a section on civil government. Calvin's political theology is anchored in his concept of the twofold government, two jurisdictions, one spiritual and the other temporal. The two jurisdictions are distinct and separate, yet both are under the lordship of Christ. This lays a foundation for the harmony of church and state toward godly ends.

For Calvin, the office of the magistrate is acceptable to God and even the most honourable of all callings. Yet Calvin asserts approval of resistance under certain conditions, specifically if those who resist do not do so as 'private individuals' but through lower or lesser magistrates who are lawfully in authority to check an errant magistrate. Calvin prescribes limited purposes for civil government, and provides justification for executing criminals, war in self defence, and collection of taxes.

Calvin's political theology challenged the political control of the Roman church while at the same time refuting the radical politics of Anabaptists who sometimes had advocated armed rebellions or at others disallowed Christians to participate in civil office or war. Though GDL Reformed vacillated in their theology, by the mid 1560s, they confirmed their connection with the theology of Calvin and the Swiss Reformation, which included its active engagement of the Christian with society and the state.

While the relationship of Calvin and GDL Reformed had suffered a general decline through failed communications, flared tempers, and ill-timed events; Calvin's political theology – at least as a general platform – shared much common ground with GDL Reformed leaders, especially as both parties engaged Roman Catholics and Antitrinitarians in their own contexts. In the end, GDL Reformed leaders rejected socio-political radical departures from Calvin, retained Calvin's political theology generally, and maintained correspondence with other Reformed leaders outside GDL.

Sixteenth-century events are far off from the twenty-first century, but they raise questions for contemporary reflection about how theological ideas transfer between contexts and through relationships.

Першы Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі
Працоўныя матэрыялы
Том 1 (2012)

The First International Congress of Belarusian Studies
Working Papers
Volume 1 (2012)

**Founders and Organizers**
*Political Sphere* Institute of Political Studies (Palityčnaja Sfiera) (Belarus)
Vytautas Magnus University (Lithuania)
Institute of the Grand Duchy of Lithuania (Lithuania)

*EuroBelarus* International Consortium (Belarus)
Belarusian Institute for Strategic Studies (Belarus)
*Našie Mnienije / Our Opinion* Expert Community web-site (Belarus)
*Novaja Eŭropa / New Europe* online magazine (Belarus)
*Arche* journal (Belarus)
*BelarusDigest* online magazine (United Kingdom)
*Flying University* program (Belarus)
Konrad Adenauer Stiftung (Germany)
Agency of Humanitarian Technologies/ Centre for Social Innovations (Belarus)
*East Politics Centre* public institution (Lithuania)

*Працоўныя матэрыялы Першага Міжнароднага Кангрэса даследчыкаў Беларусі, што адбыўся 23–25 верасня 2011 года ў Коўне, Літва. Тэксты прысвечаны актуальным даследаванням у галіне беларускай гісторыі, палітыкі, грамадства і культуры.*

*Working papers of the First International Congress of Belarusian Studies, which was held on September 23–25, 2011 in Kaunas, Lithuania. The texts cover topical research on Belarusian history, politics, society and culture.*

UDK 323.2(476)(063)
Fi319

Web: http://icbs.lt, http://icbs.palityka.org/
e-mail: icbs@palityka.org
Tel. (BY) + 375 29 673 32 96
Tel. (LT) + 370 68 63 11 46
Fax. + 370 37 20 38 58